Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 26 (4775) 2 ліпеня 2014 г.

# 3 ліпеня — Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь



Фота Кастуся Дробава

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

## Для цябе

*Для цябе, мой харошы,*
*мой дружа,*
*Я прыходжу з завода ўначы.*
*Я хачу, каб насіў на плячы*
*Ты здабытае мною аружжа.*

*Ты не думай,*
*што толькі ласкавай*
*Будзе жонкі малая рука.*
*Я хачу, — ад майго, ад станка,*
*Каб твая пачыналася слава.*

*Ты далёка цяпер, так далёка,*
*Што і ветры*
*мой сум не дамчаць!*
*Я ўмею чакаць і чакаць,*
*Мне нястрашна*
*за працай нялёгкай.*

*Ты з вінтоўкай*
*убачышся новай, —*
*Зноў успомні тады пра мяне,*
*Як кахаліся мы па вясне,*
*Як любілі мы водар кляновы.*

*Помніш сад салаўямі багаты,*
*Помніш, мілы,*
*той бэзавы май?*
*Ты чужынцаў*
*насмерць забівай,*
*Каб не лезлі ў нашыя хаты!*

26.05.42 г.

***

Важнай знаходкай, ці, дакладней, сапраўдным адкрыццём для айчыннага чытача напярэдадні 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў павінны стаць нататнікі Эдзі Агняцвет з допісамі ваеннага і пасляваеннага часу.

Пляменнік Эдзі Сямёнаўны Бахціяр Бахціяраў захаваў гэтыя рукапісы, якія ўтрымліваюць назіранні, роздумы паэткі, цытаты вядомых людзей пра жыццё, мастацтва, прыгажосць… Ёсць сярод запісаў і вершы.

Некаторыя публікаваліся, але адшукалася шэсць, якія дагэтуль не пабачылі свет. Адзін з іх — «Для цябе». Цалкам пазнаёміцца з унікальнай знаходкай можна ў 7-м нумары часопіса «Полымя».

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прызначыў Лілію Ананіч міністрам інфармацыі. «Я вельмі спадзяюся, што вы ведаеце ўсе недахопы і паставіце работу ў міністэрстве так, каб потым не было сорамна ні вам, ні краіне. Вельмі хацелася б, каб вы, нягледзячы на шматгадовую службу ў гэтым міністэрстве, усё ж такі прыўнеслі ў яго дзейнасць штосьці новае. Але галоўнае, каб уся структура была наладжана і працавала як гадзіннік», — падкрэсліў Прэзідэнт.

✔ У межах праекта Саюзнай дзяржавы ў Мінску пройдзе выстаўка з музейных фондаў Беларусі і Расіі, прысвечаная 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Экспазіцыя адкрыецца 4 ліпеня ў новым будынку Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і распавядзе пра стан культуры ў ваенны час, працу франтавых агітацыйных брыгад, устаноў культуры ў тыле і ў эвакуацыі.

✔ Расійскім ветэранам — удзельнікам аперацыі «Баграціён» — уручаны юбілейныя медалі «70 гадоў вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў». Урачыстая цырымонія адбылася ў Маскве ў Цэнтральным музеі Вялікай Айчыннай вайны і завяршыла арганізаваны ў музеі «круглы стол» «Аперацыя Баграціён: Погляд з XXI стагоддзя». Прайшла і прэзентацыя кнігі «Рэспубліка-партызанка», выдадзеная пры падтрымцы рэгіянальнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Масквы».

✔ Заключны этап Міжнароднага расійска-беларускага конкурсу студэнцкіх навуковых прац па гісторыі «Агульны шлях да Вялікай Перамогі: да 70-годдзя вызвалення Беларусі» завяршыўся ў Белдзяржуніверсітэце. Гэта адзін з сумесных праектаў БДУ і Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. В. Ламаносава, які накіраваны на стымуляванне навукова-даследчай дзейнасці моладзі, папулярызацыю гістарычных ведаў і пашырэнне цікавасці да агульнай расійска-беларускай спадчыны.

✔ Салісты балетнай трупы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь перамаглі ў IV Міжнародным конкурсе артыстаў балета ў Стамбуле (Турцыя). Уладальнікамі Гран-пры сталі вядучыя майстры сцэны Людміла Хітрова і Канстанцін Геронік. Дарэчы, у чэрвені танцоры былі ўдастоены высокіх дзяржаўных узнагарод — медалёў Францыска Скарыны. Першую прэмію конкурсу заваяваў саліст балета Такатошы Мачыяма. Выпускніца Беларускай харэаграфічнай гімназіі-каледжа, удзельніца тацвальнага «Еўрабачання-2013» Яна Штангей заваявала другую прэмію.

✔ Рэспубліканская выстаўка-кірмаш вырабаў народных рамёстваў, нацыянальнай сувенірнай прадукцыі і страў беларускай кухні «Беларускі сувенір» пройдзе ў Мінску 4 — 5 ліпеня. Майстры прадставяць традыцыйныя вырабы і арыгінальныя творчыя работы. Тут жа размесціцца летнія кафэ, дзе кожны зможа пакаштаваць нацыянальныя стравы.

✔ «Беларусь 1» 6 ліпеня ў 22.15 прапануе тэлеверсію вялікага гала-канцэрта свята «Купалле» («Александрыя збірае сяброў»), які стане адным з самых яркіх момантаў традыцыйнага ліпеньскага фэсту. У ім возьмуць удзел майстры мастацтваў з Беларусі, Расіі ды Украіны.

✔ Творчыя калектывы з 8 краін бралі ўдзел у XXI Міжнародным фестывалі песні і музыкі Падняпроўя Беларусі, Расіі і Украіны «Дняпроўскія галасы ў Дуброўне». Фэст праходзіў з 27 па 29 чэрвеня. Гасцінная Дубровеншчына грунтоўна падрыхтавалася да сустрэчы гасцей: увазе гледачоў былі прапанаваны тэатралізаваны гістарычны паказ, выстаўка клубаў нацыянальнай кухні, прагляд кінастужкі «Брэсцкая крэпасць» ды інш.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Мікалай Чаргінец: «І летам кніга — у радасць»



Фота Кастуся Дробава

**Актыўны ўдзел у арганізацыі акцыі «Лета з добрай кнігай», якую заснавалі Міністэрства інфармацыі, органы выканаўчай улады на месцах, Выдавецкі дом «Звязда», бярэ Саюз пісьменнікаў Беларусі. Сёння грамадскае аб'яднанне з'яўляецца літаральна самым важным удзельнікам праекта па пашырэнні чытацкай прасторы. Пра ўдзел СПБ у новай ініцыятыве наш карэспандэнт гутарыць са старшынёй СПБ Мікалаем Чаргінцом.**

**— Мікалай Іванавіч, можа быць, ужо ёсць канкрэтыка ў справах? Як пісьменнікі спланавалі сваю працу на лета ў стасунках з юным чытачом?**

— Сёння час такі, што мала выдаць кнігу. Трэба прыйсці з ёю непасрэдна да чытача. Мы гэта разумеем. І вельмі важна, што Міністэрства інфармацыі падштурхнула ўсіх не толькі дбаць пра адпачынак, але і з дзецьмі на прыкладзе розных кніг правесці выхаваўчую работу. Успомніце ўласнае дзяцінства. Калі, як не летам, у час канікулаў, прачытаць тое, што патрабуе школьная праграма? Ды і не толькі праграма… Сёння выдаецца неверагодна шмат дзіцячых кніг. Мы нават пленум пісьменніцкай арганізацыі наўмысна прысвяцілі дзіцячай літаратуры. А з часам абавязкова правядзём пленум ці канферэнцыю па пытаннях дзіцячага чытання. Гэта ж вельмі важна — не ўпусціць дзетак, развіць іх цікаўнасць да папяровай кнігі. Ды і да электроннай таксама, але добрай, цёплай, скіраванай на выхаванне хлопчыкаў і дзяўчынак…

Што да мерапрыемстваў, то ва ўсіх абласных арганізацыях распрацоўваюцца планы па правядзенні акцыі «Лета з добрай кнігай». Галоўнае, на што мы звяртаем увагу, — сустрэчы з дзецьмі ў аздараўленчых лагерах, на дзіцячых пляцоўках. Ведаю, што ўжо актыўна падключыліся да такіх стасункаў з юнымі чытачамі Кацярына Хадасевіч-Лісавая, Рагнед Малахоўскі, Міхась Пазнякоў, Ганад Чарказян, Ніна Галіноўская, Анатоль Зэкаў, Алесь Бадак… У іх якраз і кнігі павыходзілі, тыя зборнікі казак, вершаў, якія адрасаваны юнаму чытачу. Вось і з'явілася магчымасць аўтограф-сесію правесці, прэзентацыю арганізаваць, іншыя мерапрыемствы зладзіць.

**— Як вы лічыце, ці дастаткова ў краіне робіцца для прапаганды кнігі?**

— Канечне, недастаткова. Але не будзем тут шукаць вінаватых… Вялікія спадзяванні ў пісьменнікаў, ва ўсіх маіх калег — на электронныя сродкі масавай інфармацыі, перш-наперш на тэлебачанне. Болей рашуча трэба прапагандаваць кнігі беларускіх аўтараў у інтэрнэт-прасторы. Мала хто і з самых літаратараў мае ўласныя сайты. Затое яны ёсць у нашых аддзяленнях СПБ, у Саюза пісьменнікаў Беларусі. Паэтам і празаікам трэба актыўней выкарыстоўваць гэтыя інфармацыйныя пляцоўкі.

І друкаваным сродкам масавай інфармацыі шмат што варта зрабіць. Вось у «ЛіМе» ёсць добры дадатак — «Кніжны свет». Дзякуй за гэта галоўнаму рэдактару Таццяне Сівец, іншым калегам, журналістам, што рупяцца над ім. Але ж патрэбна рэалізоўваць падобныя праекты і ў іншых выданнях.

**— На якія кнігі арганізатарам мерапрыемстваў акцыі «Лета з добрай кнігай» вы параілі б звярнуць увагу?**

— Кніг на самай справе выдаецца вельмі шмат. Лепшыя з іх адзначаюцца і Рэспубліканскай літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон». Але важна, каб інфармацыя пра кнігу даходзіла да чытача. Вось з выдавецтвамі «Харвест» і «Чатыры чвэрці» мы працуем над «Бібліятэкай Саюза пісьменнікаў Беларусі». Дзясяткі кніг ужо пабачылі свет усяго за некалькі гадоў! Чаму б у кожнай з раённых бібліятэк, бібліятэк аграгарадкоў і нават у школьных кніжніцах не мець поўны камплект гэтага сапраўды выдатнага збору, які адлюстроўвае пламкненні, творчыя знаходкі сучасных пісьменнікаў нашай краіны?

А што да інфармавання пра навінкі айчынных выдавецтваў, то мне здаецца, што варта і нейкія каталогі адмысловыя выпускаць. Мо нават па відах літаратуры, як тэматычных абсягах. Асобна — па класіцы, асобна — па дзіцячай літаратуры, фантастыцы і іншых кірунках. І ніяк нельга забываць героіка-патрыятычную літаратуру, творы пра Вялікую Айчынную.

**Гутарыў Сяргей ШЫЧКО**

# Імя Івана Пехцерава

Рашэннем Клімавіцкага райвыканкама раённай бібліятэцы Клімавіцкай бібліятэчнай сеткі нададзена імя паэта Івана Пехцерава, творчасць якога добра ведаюць і любяць на Магілёўшчыне.

Жывучы і працуючы ў Магілёве, Іван Ягоравіч напісаў паўтара дзясятка кніг. Нямала песень стварылі кампазітары на яго вершы. Не стала майстра паэтычнага слова на 76-м годзе жыцця ў лютым мінулага года. Пахавалі паэта на гарадскіх могілках, на алеі знакамітых магіляўчан.

Нарадзіўся Іван Пехцераў у Клімавіцкім раёне, дзе скончыў сярэднюю школу. Адсюль паехаў на вучобу ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, працаваў у сферы журналістыкі і культуры. Заўсёды з радасцю і ўдзячнасцю вяртаўся на малую радзіму, знаходзіў тут тэмы ды натхненне для паэтычнай дзейнасці. Новыя вершы член Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Пехцераў спачатку дасылаў на суд землякоў у клімавіцкую раённую газету «Родная ніва», пазаштатным карэспандэнтам якой працаваў некалькі дзесяцігоддзяў.

**Уладзімір ДУКТАЎ,**
**старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ**

# Святое месца

27 чэрвеня на Вайсковых могілках адбыліся «Жальбіны» з нагоды 72-й гадавіны смерці народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Людзі, у сэрцах якіх жыве памяць пра Песняра, усклалі кветкі да яго помніка.

Ксёндз Віталій Драздоўскі, вікарый архікатэдральнага касцёла Найсвяцейшай панны Марыі, правёў набажэнства за супакой душы Яна Луцэвіча. Сваты айцец агучыў урывак Дабравесця ад Лукі — той самы, які загадвае «не шукаць жывых сярод памерлых». Актуальнасць прысутнасці асобы і слова Янкі Купалы падкрэсліў кожны, хто браў слова ля «цэнтра Беларусі» — такі сімвалічны сэнс мае месца пахавання заўсёды жывога паэта. Вершы яго прагучалі ў пранікнёным выкананні Галіны Дзягілевай, актрысы і кіраўніка тэатра аднаго акцёра «Зьніч». Уласныя вершы-прысвячэнні Янку Купалу прачыталі паэты Міхась Пазнякоў, Віктар Шніп, Навум Гальпяровіч, Мікола Шабовіч, Міхась Башлакоў.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# Яго энцыклапедыя

Літаратурны музей Петруся Броўкі гасцінна запрасіў на свята з нагоды дня нараджэння народнага паэта Беларусі, класіка нацыянальнай літаратуры, ініцыятара і кіраўніка выдавецтва «БелСЭ» («Беларуская Савецкая Энцыклапедыя»).

У музеі-кватэры прысутныя маглі адчуць асаблівую плённа-творчую, па-сяброўску добразычлівую атмасферу, уласцівую асяродзю Пятра Усцінавіча. Пра яго харызматычныя і чалавечыя арганізатарскія якасці ды літаратурны талент распавялі сябры, паплечнікі, нашчадкі творча-навуковай справы.

Ганаду Чарказяну П. Броўка калісьці даў «пуцёўку» ў творчасць: першым ацаніў рукапісы, дапамог надрукаваць іх, шчыра дзяліўся ўласным досведам. Мастацкі крытык Галія Фатыхава, якая пачынала прафесійны шлях у якасці сакратара-рэферэнта Броўкі ў выдавецтве «БелСЭ», прапанавала свой расповед. Людміла Карпава, дачка пісьменніка Уладзіміра Карпава, прыгадала юнацкія і дзіцячыя ўражанні пра асобу свайго былога суседа — клапатлівага мужа, гасціннага гаспадара, незвычайна інтэлігентнага чалавека.

Гісторыю стварэння выдавецтва распавяла вядучы навуковы рэдактар «Беларускай Энцыклапедыі» Тамара Ліповіч. Акрамя спецыяльнай пастановы ЦК КПСС, паводле якой кожная савецкая рэспубліка мела сваю энцыклапедыю, было і самае шчырае імкненне да гэтага П. Броўкі. Яму надарылася пачуць на асамблеі ААН прамову аднаго з выступоўцаў: «Народ не можа звацца народам, калі ў яго няма герба, сцяга і энцыклапедыі». Напачатку ў штаце «БелСЭ», прыгадвае Т. Ліповіч, былі толькі тры чалавекі, уключаючы галоўнага рэдактара, але за паўгода колькасць супрацоўнікаў узрасла да 120, потым да 140 чалавек, таму трэба было ініцыіраваць пабудову асобнага памяшкання — няцяжка здагадацца, хто заклаў сімвалічны першы камень. Сабраныя ва ўнікальны калектыў «разумнікі-энтузіясты» — таксама заслуга Пятра Усцінавіча, які зацікавіў энцыклапедычнай справай К. Крапіву, П. Панчанку, П. Глебку ды іншых таленавітых асоб.

Галоўным вынікам працы стала 12-томная «Беларуская энцыклапедыя». На яе аснове потым былі створаны самыя розныя спецыялізаваныя даведачныя выданні, слоўнікі, сацыяльна значная літаратура па найбольш актуальных напрамках развіцця культуры, навукі, эканомікі, вытворчасці.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

# …І знайшлі цуд

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрасіў сваіх наведвальнікаў у чароўнае падарожжа з мэтай знайсці сваю папараць-кветку, сімвал, які прыносіць шчасце. Купальская ноч адбылася ў Доме беларускага песняра 24 чэрвеня, больш таго — стала добрай традыцыяй, бо праводзіцца яна ўжо чацвёрты год запар.

Свята, на якім, калі верыць паданням, абуджаецца самая моцная, хвалюючая і містычная сіла зямлі, сабрала пад адным дахам цэлыя сем'і, людзей абсалютна рознага ўзросту: дзяцей, моладзь, сталых грамадзян. Супрацоўнікі музея прапанавалі гасцям падзяліцца на каманды і ўзяць удзел у цікавай гульні-вiктарыне, паводле ўмоў якой пераможца атрымліваў каштоўны падарунак і агонь-кветку, зробленую ў тэхніцы арыгамі. Адказамі на шэраг пытанняў, змешчаных у пуцяводніку, сталі экспанаты музея, якія быццам «схаваліся» ад вачэй. Таму ўсім, хто зацікавіўся гэтай акцыяй добрага настрою, трэба было ўважліва абысці залы, зазірнуць у кожны куточак і, нарэшце, праверыць уласную эрудыцыю. Госці даведаліся, напрыклад, на колькі моў свету былі перакладзены санеты Янкі Купалы (што служыла вучнёўскім сшыткам паэта ў канцы XIX стагоддзя), якая геаграфічная карта вісела над яго сталом у пецярбургскай кватэры.

Вядома, што музей Янкі Купалы знаходзіцца ў цэнтры Мінска, таму Купальская ноч мела ўрбаністычны характар: нельга было запаліць сапраўднае вогнішча і вадзіць вакол яго карагоды. Супрацоўнікі музея, тым не менш, знайшлі выдатны кампраміс: зладзілі майстар-клас па пляценні вянкоў, навучылі гасцей старадаўнім беларускім танцам, а для самых цярплівых напрыканцы вечара падрыхтавалі фаер-шоу. Акрамя таго, падчас акцыі «Спеўнае поле», якая стала часткай Купальскай ночы, прагучалі абрадавыя песні ў выкананні этна-фольк-гурта *Guda*. Атрымаць тэксты і заспяваць на ўнісон з артыстамі маглі ўсе жадаючыя, надоўга захаваўшы ў сэрцы прыемныя ўражанні.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Кожная літара сведчыць

Споўнілася 72 гады з дня трагедыі ў вёсцы Боркі Кіраўскага раёна, калі ў ходзе буйной карнай аперацыі фашысты знішчылі 1800 мірных жыхароў.


Фота Максіма Мікешына

Сімвалам памяці пра трагедыю ў Борках і ва ўсіх спаленых вёсках Магілёўскай вобласці з'яўляюцца ўзведзеныя тут мемарыяльны комплекс і капліца.

Абласная акцыя, прысвечаная памяці ахвяр спаленых вёсак у гады Вялікай Айчыннай вайны, ініцыяваная грамадскім аб'яднаннем «Рускае культурна-асветніцкае таварыства» пры падтрымцы Кіраўскага райвыканкама, прайшла на мемарыяльным комплексе ў Борках. У гэты дзень сабраліся разам беларусы, расіяне, украінцы…

«Нельга без хвалявання ўспрымаць звесткі пра трагедыю, якая адбылася ў гэтых мясцінах, і ўвогуле ўсё, што перажыла наша Айчына больш як 70 гадоў таму, — адзначыў у сваёй прамове кіраўнік прадстаўніцтва «Рассупрацоўніцтва», саветнік пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Віктар Малашанка. — Але, нягледзячы ні на што, вялікая сіла духу савецкага народа не была зламана: прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцей аб'ядналіся ў барацьбе з чужынцамі. Я родам з суседняй Браншчыны. Нядаўна пад Бранскам адкрыты мемарыяльны комплекс на месцы былой вёскі Хацунь. Трагедыя ў ёй адбылася ў кастрычніку 1941 года: фашысты расстралялі 321 чалавека, з іх 60 — дзеці. На Браншчыне заўсёды гаварылі: «Хацунь — сястра беларускай Хатыні».

«Чалавек, спыніся, памаўчы, ушануй памяць загінуўшых, успомні пра іх гераічны подзвіг у імя жыцця будучых пакаленняў!» — заклікалі вядучыя. Загучалі званы. Хвіліна маўчання… Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксандр Казека, ураджэнец Кіраўскага раёна, родныя якога загінулі ў полымі спаленых Борак, паклаў гэтыя падзеі ў аснову сваёй паэмы «Марыйка». Яна ўвайшла ў зборнік «Перакрыжаванні лёсаў», выдадзены нядаўна пры фінансавай падтрымцы прадстаўніцтва «Рассупрацоўніцтва» да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Аўтар падкрэсліў, што для жыхароў Магілёўскай вобласці сімвалам трагізму мінулай вайны і месцам паломніцтва павінна стаць менавіта гэтая вёска, дзе ўвекавечана памяць загінуўшых, дзе кожная літара на жалобнай сцяне заклікае нашчадкаў: помніце, не дазвольце гэтаму паўтарыцца! Увазе прысутных быў прапанаваны ўрывак з паэмы «Марыйка» ў выкананні народнага тэатра і ансамбля эстраднага танца «Лайт-данс» абласнога Палаца культуры.

Хвалюючымі былі ўспаміны ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, нашага земляка Уладзіміра Іванавіча Лазарэнкі, які ўдзельнічаў у баявых дзеяннях партызан на Кіраўшчыне.

Старшыня Рускага культурна-асветніцкага таварыства Людміла Валадзько падкрэсліла: «Мы жывём у няпросты час. Славянскім народам трэба быць разам».

**Наталля ХАДАКОВА**

# Нашы па-ўкраінску

У літаратурна-мастацкім часопісе «Київ», які выходзіць у сталіцы Украіны, у другім нумары за 2014 год з'явіўся сапраўдны «беларускі сшытак».

Ладнай падборкай прадстаўлены творы Алеся Бадака (аповесць «Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца»), Таццяны Сівец, Алега Салтука, Ніны Шчарбачэвіч, Мар'яна Дуксы, Навума Гальпяровіча, Ягора Конева, Віктара Шніпа, Алены Брава. Над перакладамі на ўкраінскую мову працавалі Міхайла Камянюк, Алеся Сандыга, Пятро Сялецкі, Галіна Тарасюк, Валянціна Давыдзенка, Уладзімір Даніленка. Вялікая роля ў арганізацыі гэтага творчага праекта належыць старшыні Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Украіны і галоўнаму рэдактару часопіса «Київ» Віктару Баранаву ды перакладчыцы — пісьменніцы Галіне Тарасюк, якая праявіла ініцыятыву ў арганізацыі гэтай падборкі, сабрала тэксты, пазнаёміла з імі ўкраінскіх перакладчыкаў і сама ўзяла чынны ўдзел у перакладзе.

Варта заўважыць, што ўкраінская літаратурна-мастацкая перыёдыка вельмі ўважлівая да літаратурнага працэсу ў Беларусі. Прыкладам, даволі часта беларускіх пісьменнікаў друкуе газета «Літературна Україна», а таксама такое аўтарытэтнае перыядычнае выданне, як «Слово просвіти» — тыднёвік Усеўкраінскага таварыства «Просвіта» імя Тараса Шаўчэнкі.

**Сяргей ШЫЧКО**

*Творчыя сустрэчы*

# Ёсць такая нагода

У межах падрыхтоўкі да 70-гадовага юбілею Гродзенская пагранічная група прадугледзела літаратурны ўрок для асабовага саставу, правесці які запрасіла членаў Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

На КПП па вуліцы Белуша ў Гродне нас сустрэла захавальніца кніжнага фонду пагрангрупы Людміла Скляр, якая пазнаёміла з навінкамі сваёй кніжніцы. Сярод іх — «Споведзь сына» Уладзіміра Ліпскага, «У жнiўні дзевяноста першага» і «Прывіды Мажэйскай крэпасці» Славаміра Антановіча, «Споведзь старых замкаў» Алеся Марціновіча. Дарэчы, у Гродзенскай пагранічнай групе захаваліся бібліятэкі на ўсіх заставах і ў аддзяленні пагранічнай службы «Парэчча», куды мы накіраваліся ў суправаджэнні начальніка аддзела камплектавання і ўліку асабовага саставу палкоўніка Уладзіміра Мядзведзева.

І вось у маляўнічым куточку вырастаюць карпусы казармы і жылых дамоў. Адразу ідзём у актавую залу, дзе нас чакаюць салдаты. Дзмітрый Радзівончык «разагравае» іх вершам пра… холад. Досыць доўгі твор у нейкі момант пачынае выклікаць скептычныя ўсмешкі, пакуль сюжэт не падыходзіць да развязкі. У гэты момант зала ад нечаканага адкрыцця паэта ўзрываецца апладысментамі.

За ім я разгортваю сваю кніжку. Пасля перадаю слова Браніславу Ермашкевічу. У сваёй творчасці ён прытрымліваецца класічных традыцый вершаскладання, услаўляючы родныя мясціны, дабрыню і славутых людзей. Гэтыя творы таксама даспадобы моладзі.

**Тамара МАЗУР**

# Увесь свет і ваколле Ушачаў

Адмысловае свята ў гонар 90-годдзя з дня нараджэння Васіля Быкава прайшло на радзіме пісьменніка, на Ушаччыне. У вёсцы Бычкі, дзе нарадзіўся пісьменнік, сустрэліся госці са сталіцы, вучні з мясцовых школ, мясцовыя жыхары. Усе яны, хто ў якасці гледача, хто — удзельніка, спрычыніліся да літаратурна-музычнай імпрэзы «Доўгая дарога дадому» з пастаноўкай паводле апавядання В. Быкава «Сваякі».

Далей госці накіраваліся ва Ушачы. У будынку раённага Дома культуры адбылася літаратурная вечарына, на якой ганаровым госцем стала сястра Васіля Быкава, Валянціна Уладзіміраўна.

Яна ўвайшла ў залу разам з усімі. Ціхая жанчына з кароткімі сівымі валасамі, у карычневай сукенцы і светлай лёгкай куртцы, з хусткай «у кветы». Праз колькі часу ёй падалі мікрафон, і ўсе пачулі простыя словы сястры пра брата.

Больш за ўсё маленькі Васіль любіў чытаць. Акрамя чытання, узгадае сястра, любіў на возеры з вудай пасядзець.

Валянціна Уладзіміраўна распавяла і пра мастацкія здольнасці будучага пісьменніка. Спачатку маляваў толькі алоўкам, а калі ў яго з'явіліся масляныя фарбы, то на саматканым палатне, якое дала маці, напісаў партрэт Леніна.

Сястра прыгадвала цяжкасці дзяцінства, напрыклад, як не было ў малога Васіля абутку ў чацвёртым класе і настаўнік купіў яму чаравікі; апавядала пра зімовыя прыгоды, калі разам з братам хадзілі ў школу з Бычкоў у Кублічы.

Валянціна Уладзіміраўна прызналася, што аднойчы прачытала братаў дзённік. «Адзін раз знайшла, што дзяўчына яму спадабалася — дзве літары пазначыў толькі». Потым яшчэ і з сяброўкай прачыталі, а сяброўка, відаць, была большай гарэзай ды аднойчы за абедам запыталася: «А што гэта за Н. К.?»

«Нічога не сказаў, толькі спадылба як гляніць! А мы схаваліся за шчытом. Баяліся яго суровага позірку!» — узгадвае Валянціна Уладзіміраўна.

Пра позірк Васіля Быкава можна пісаць асобную кнігу ўспамінаў. Для тых, хто цяпер можа адчуць позірк В. Быкава толькі ў яго творах, праз яго сумленнае слова.

**Аксана ЮЧКАВІЧ**

# Душой народжанае

У сталічнай публічнай бібліятэцы № 5 адбылася вечарына пісьменніцы Алены Міхаленка «И свет духовности не гаснет».

Аўтар шматлікіх кніжак, на працягу дзесяці гадоў — галоўны рэдактар праваслаўнай газеты «Воскресение», а яшчэ настаўнік фізікі ў школе, яна кожны дзень адчувае жыццё напоўніцу. Алена Іосіфаўна выдатна ўмее трымаць аўдыторыю. Шчырая размова з моладдзю пачалася са згадак пра Дзень славянскага пісьменства. Святыя Кірыл і Мяфодзій пакінулі нам у спадчыну моцную зброю — слова, якое дамагае захаваць адвечныя каштоўнасці і абудзіць душу. А. Міхаленка распавяла пра ўласныя пошукі духоўнасці і прачытала вершы, па якіх можна было назіраць сталенне душы — ад падлеткавых разважанняў пра жыццё і смерць, месца ў свеце, захапленне навакольнай прыгажосцю да дарослага разумення таго, што адбываецца навокал.

Дзяўчынкай яна пісала пра сябе: «Я звычайная, я гарадская», — але тут жа адзначала, што «можа размаўляць з ветрам». Захаплялася падарожжамі, сустракала ўзыход сонца ў гарах і «не баялась быть непутёвой». Паступова сталела — і ў творчасці з'яўляліся новыя тэмы. Для дачушкі пачала складаць казкі, з дапамогай якіх хацела навучыць адрозніваць добрае ад дрэннага. Адна з казак пісьменніцы — пра коніка і чарапашку — прагучала ў выкананні актрысы Алены Шабад.

У вечарыне ўзяла ўдзел і дачка пісьменніцы Вольга Міхаленка, журналістка, малады таленавіты рэжысёр, аўтар цікавых сюжэтаў навасных праграм АНТ.

**Соф'я САКОВІЧ**

Віктар ГАРДЗЕЙ



## Суніцы

На абеліску гэтым дата
Усё раскажа ў цішыні:
Пагасла сонца для салдата
Якраз у чэрвеньскія дні.

Маўчалі франтавыя зводкі,
Ды там, дзе ўпаў баец на дол,
У лета кожнае на ўгодкі
Суніцы высыплюць вакол.

Над мужнасцю хлапечай спеюць,
Над памяццю крывёй гараць,
І нават дзеці не пасмеюць
Суніцу хоць адну сарваць.

***

Асляплі вочы ад чакання —
Не першы год, даўным-даўно.
Пагаснуць зоры, і світання
Заружавее палатно.

Сабе пашылі маскхалаты
Бярозы, ясені, кляны.
Ці вам не холадна, салдаты,
Што не вярнуліся з вайны?

Вясну зялёнай гімнасцёркай
На міг прымроіць удава
І зноў залье слязою горкай
Паркаль сірочага шытва.

***

Пераможца і непераможны —
Цяжкі сэнс у імені маім.
І, вядома, у той час трывожны
Доўга не валтузіліся з ім.

На палеткі з дымных эшалонаў
Рынулі дывізіі салдат,
І на плечы ім замест пагонаў
Леглі хутка рукі немаўлят.

Называлі, нас не папыталі:
Хто — Іван,
хто — Пеця,
хто — Максім:
Толькі ад бяды, ад попелу і сталі
Прысмак горкі ў імені маім.

## 22 чэрвеня

На лічбу 22 світанне
Перагарнула каляндар,—
Дзень летняга сонцастаяння,
Дзень цішыні
і светлых мар.

Дзень васількоў,
травы мурожнай
І спелай чырвані суніц.
Дзень нашай памяці трывожнай
З далёкім водбліскам зарніц.

Дзень памяці і ўшанавання.
Дзень, поўны ласкі і цяпла.
Дзень вечнага супрацьстаяння
Сіл справядлівасці і зла.

## Балада пра тытунь

Жыла ля рэчкі цётка Міла,
Яе Вялікасць Удава.
Сама і жала,
і касіла.
Сівела з жалю галава.

— Мой родны,
міленькі Сцяпанка,
Пайшоў — не вернешся назад?
На агародзе,
каля ганка,
Цвіце, цвіце твой самасад.

Тытунь выполвала кабета,
Усю адорвала радню,
Але ўзыходзіла
праз лета
Між град расада тытуню.

— Мой родны,
міленькі Сцяпанка,
Ратуй, ратуй маю душу!
Сяджу адна я каля ганка,
Табаку горкую крышу.

І цётка больш не выкідала
Вайной пакрыўджаны мультан:
Сушыла лісце
і вязала —
Так, як даўней рабіў Сцяпан.

— Мой родны,
міленькі Сцяпанка,
Цябе я помню маладым.
Сяджу адна,
сяджу ля ганка,
Пускаю ў неба сіні дым.

Жыла ля рэчкі цётка Міла
Без лішніх слоў
і без спагад.
Касіла, жала і — курыла
Пякучы, горкі самасад.

— Мой родны,
міленькі Сцяпанка,
Куру я ў смутку і ў журбе,
Бо той тытунь,
што ўзрос ля ганка,
Не даў забыць,
забыць цябе.

## На першай вярсце

На першай вярсце ад граніцы
Наш мірны
характар відзён:
Пад небам растуць камяніцы
З блакітным прасторам акон.

Крывёю напоены травы
За першую гэту вярсту.
Салдацкай адвагі заставы
Тут пільна
стаяць на пасту.

Адны толькі
птушкі фарсіста
Сюды залятаюць без віз.
Адсюль пачынаюць турысты
Па спеўных раўнінах круіз.

Сябрам,
што прыходзяць з даверам,
Гасцінна, мой Брэст, адчыні
Радзімы парадныя дзверы
На першай вярсце цішыні.

Тут гояцца даўнія раны
І светла чаромха цвіце
Над славай
салдат, пахаваных
На першай айчыннай вярсце.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ



## Вечны агонь

З папялішча адроджаны Мінск,
Ты героям узвёў абеліск,
Тут, вартуючы дня цішыню,
Б'ецца сэрца жывое агню.

Не забыць ні цяпер, ні пасля
Тых, хто ў дом не вярнуўся з вайны,
Беларусь, наша маці-зямля,
Беражэ іх прыстанак, іх сны.

Над сталіцай світанак гарыць
Яснай чырванню нашых сцягоў.
Будзе подзвіг у памяці жыць,
Хваляваць нас,
Як Вечны агонь.

Будзе весці за рэхам падзей,
Адгукацца, і не ўпершыню...
Як на плошчу,
Прыйду я ў Музей —
Да святынь у яго цішыню.

Быццам кнігу,
Яе расхіну —
Бомб выцчём яна ўраз скалане,
І па залах, нібы праз вайну,
Праўдзе, экскурсанта, мяне.

Дні трывог, дні баёў, дні нагод
Я прайду, стаўшы, можа, другім,
Бо агонь,
Вечны ўспыхне агонь —
Не на плошчы,
А ў сэрцы маім!

## Балада пра каску

Гарачая куля байца напаткала
І, сэрца спыніўшы, астыла.
І каска на жоўты пагорак упала,
Глынуўшы дарожнага пылу.

А цела байца да каліны пахілай
Таварышы ў жальбе прынеслі.
Парушыў маўчанне
салют над магілай,
Заплакала рэха у лесе.

Ляжыць на пагорку абветраным каска
З маленькаю дзірачкай-ранай.
Над ёю шапочуць і травы, і краскі
І ўвечар, і ў сонечны ранак.

## Слязьмі

Гронкі долу ранялі каліны,
Яе ўсё шырэй абступалі.
Нашэптвалі шчыра прахожым быліны
Бярозкі са смуткам і жалем...

Зноў — лета наўсцяж,
Неба цешыць блакітам.
Сок спеліць
Каліна ў гронцы.
І вось незабудка
з-пад каскі прабітай
Прыветна ўсміхалася сонцу.

Здалося мне:
Каску не злосная куля,
А тонкая кветка прабіла
І ў смутку-журбе адзінокай матуляй
Над ёю галоўку схіліла.

Ляжыць тая каска,
Травой зарастае,
Ды толькі і ў лютыя замеці
Над ёй незабудка пялёсткі ўзнімае
Блакітным сцяжком нашай памяці!

## У партызанскім лесе

Бярозы тут зусім сівыя.
А сосны у блакіт — стралой.
Зязюлі, быццам вартавыя,
Пераклікаюцца
паміж сабой.
Я сцішу крок, стамлёны крышку,
Стаю маўкліва...
А наўкол,
Нібы «лімонкі», рвуцца шышкі,
З галін сарваўшыся на дол.
Ступіў далей — і нечакана,
Бы папярэдзіўшы пасты, —
Яловы сук на ўсю паляну
Пад ботам стрэльнуў...
Як тады,
Зноў сосны пільна пазіраюць:
Хто тут парушыў іх спакой?
«Хто йдзе?» —
здаецца, запытаюць,
І я ім адкажу:
— Я — свой!

***

Стракочуць конікі ў траве,
А лета тоне у пракосах,
І раніца сінее ў росах, —
Стракочуць конікі ў траве.

Стракочуць конікі ў траве,
І чую над зямлёй зялёнай —
І цішу гром,
Як рваў, не рве,
І сонца ззяе ў сіняве,
І свет у цішыні жыве, —
Стракочуць конікі ў траве.

Стракочуць конікі ў траве,
І мне здаецца:
Будуць вёсны,
І летаў будзе
Свет дзівосны,
І ў міры будзе
Дзень пакосны,
Калі над хмарнасцю,
Над лёсам —
Стракочуць конікі ў траве.

Мікола МАЛЯЎКА



## Алея памяці і славы

Горад святочна прыбраны,
Цешыць майскага лісця абноўкамі.
Помняць тут,
На алеі,
Каштаны
Хросных сваіх —
Генералаў з рыдлёўкамі.

Прозвішчы —
справа і злева.
Як аўтографы,
іх нам пакінулі
На пліце,
Каля кожнага дрэва,
Людзі,
Якія ў вайну
Не загінулі.

Доўга залечвалі раны,
А пасля,
уздыхнуўшы з палёгкаю,
Дрэвы садзілі яны,
Ветэраны —
Пехацінцы,
Танкісты
І лётчыкі.

Многіх няма ўжо,
магчыма.
Гінулі ў бітвах арміі цэлыя,
А яны
Да сяброў,
Баявых пабрацімаў,
Адышлі па адным,
Пасівелыя.

Неба расквецяць салюты,
Майскае свята —
са смутку адценнямі.
У такія хвіліны
Гуртуюцца людзі,
Сувязь
Мацнее
Паміж пакаленнямі.

Жывяць кругі гадавыя
Каранямі тугімі,
трывалымі —
І раўняюцца тут,
На алеі,
Як радавыя,
Дрэвы,
Пасаджаныя генераламі.

## Песенька-заклічка

У мінулым не пагасла,
Як начная знічка,
Зноў яна ўсплывае ясна,
Песенька-заклічка:

«Божая кароўка,
Паляці на неба,
Прынясі нам хлеба,
Божая кароўка!..»

Помнім міны здраднай выбух
Мы, вайны падранкі,
Папяліцы на сядзібах,
Цёмныя зямлянкі.

За сталом нішчымным сумна
Радавалі святы —
На абновы і ласункі
Час быў скупаваты.

Перамога
не прынесла
Хлеба з поля бітвы,
І гучала просьба ў песні,
Як запеў малітвы:

«Божая кароўка,
Паляці на неба,
Прынясі нам хлеба,
Божая кароўка!..»
Выжыць дзецям памагала
І яна, заклічка,
І таму ў душы не гасне,
Як начная знічка.



# Настасся НАРЭЙКА

# Ноч, калі цвіце бяссмертнік

*Апавяданне*

## 1

— Марыя! Марыя!

Яна падскочыла ў ложку і з перапуду некалькі доўгіх імгненняў моўчкі ўзіралася ва ўстрывожаны твар Міласлава, заліты малочным месячным святлом.

— Марыя! Толькі ціха! Максіма няма.

Яна закалацілася, бы асінавы ліст, і рукі старэйшага брата мацней сціснулі яе перадплеччы.

— Ціха. Накінь што-небудзь.

Міласлаў адпусціў сястру толькі тады, калі дрыжыкі прайшлі. Навобмацак ён вярнуўся ў свой пакой, а яна хутка абулася, накінула хустку. Ужо амаль ля самых дзвярэй пад нагой дзяўчыны рыпнула дошка. Марыя застыла, але брат, з якім яны нарадзіліся 16 гадоў таму ў адзін студзеньскі дзень, перавярнуўся ў ложку і ліхаманкава зашаптаў:

— Пяты… Шосты… Сёмы…

Яна падбегла да яго, схілілася, пагладзіла ўскудлачаную галаву:

— Спі, Колька, спі… Усё добра.

Ён сціх, пацёрся шчакою аб яе руку і зноў праваліўся ў сон. Марыя змахнула з веек самотныя слязінкі і як мага цішэй зачыніла за сабой дзверы. Міласлаў абняў яе за плечы, правяраючы, ці не забылася накінуць што паўзверх начной сарочкі. На дыбачках яны выйшлі з хаты.

— Месячна сёння?

— Так. Светла, што днём.

Марыя сціснула далонь Міласлава.

— Максім…

Імя нагадала жывы стогн. Брат зрабіў упэўнены, нягледзячы на сваю слепату, крок улева.

— Я ведаю, дзе ён.

Яны ішлі так хутка, як маглі. Марыя дзівілася, назіраючы за Мілаславам, што па памяці лёгка знаходзіў дарогу да лясного возера. Чым бліжэй яно было, тым больш ясна Марыя разумела, чаму менавіта сюды накіраваўся ноччу Максім.

— Не бойся, — Міласлаў выдатна адчуваў яе настрой. — Паспеем. Максім цяпер смелы толькі пакуль да справы не дойдзе.

Расхінуўшы хлёсткія галіны кустоўя, што хавалі возера ад чужых вачэй, Марыя спынілася. На беразе стаяў Максім. Ён азірнуўся на гук, і заліты слязамі твар пацямнеў ад гневу:

— Прэч пайшлі!

Яны не паслухаліся. Міласлаў застаўся на адлегласці ў некалькі крокаў, а Марыя падышла зусім блізка. Слёзы ўсё яшчэ беглі па твары Максіма, а касцяшкі пальцаў ажно пабялелі, так моцна яго рукі сціскалі самаробныя мыліцы.

Калі Марыя асцярожна назвала яго па імені, Максім, канчаткова страціўшы сілы, саслізнуў на траву. Мыліцы, як забітыя, але не зломленыя воіны, упалі побач.

— Я нават утапіцца не змог! Жыць так не магу і сысці не магу таксама!

Максім плакаў, схаваўшы твар на плячы сястры.

Калі побач з імі асцярожна ўкленчыў Міласлаў, Марыя не змагла ўтрымаць брата ў абдымках. Максім вінавата адводзіў вочы, хоць ведаў: старэйшы брат не ўбачыць іх бессаромнага выразу.

Міласлаў памаўчаў з хвіліну, а пасля сурова прамовіў:

— Не думаў, што там, у лесе, ты акрамя нагі яшчэ і галаву страціў.

Максім адхіснуўся, нібы атрымаў аплявуху, а потым панурыў галаву.

— Даруйце.

Міласлаў намацаў мыліцы ў траве, узняўся на ногі.

— Пойдзем. Там Колька адзін. Прачнецца — спужаецца.

Марыя дапамагла Максіму падняцца…

## 2

Яшчэ не пераступіўшы парога сваёй лясной хаткі, яны пачулі ненатуральна высокі голас Колькі, што паўтараў, як заклінанне:

— Першы, другі, трэці, чацвёрты, пяты, шосты, сёмы, восьмы, дзявяты…

І зноў:

— Першы, другі…

У пакоі, які ён мерыў крокамі, было светла ад месяца і некалькіх грамнічных свечак пад абразамі. Марыя памятала, што не запальвала іх.

— Коля… Колька…

Некаторы час яна хадзіла побач з братам, прымяраючыся да яго крокаў, гаварыла нешта, але ён не чуў, паўтараў сваё.

Міласлаў моўчкі сядзеў на табурэце ля ложка Максіма, і белы бінт перакрэсліваў яго твар, як шнар, хаваючы выпаленыя вочы. Нарэшце Колька сціх. Марыя села, а ён кацянём згарнуўся побач, паклаўшы галаву на яе калені. Халоднай, як лёд, рукой дзяўчына перабірала каштанавыя мяккія валасы і ні пра што не думала.

На сцяне цікаў гадзіннік. Мякка лілося месячнае святло. Колька спаў. Максім задуменна разглядаў нешта на стале, а Міласлаў павольна гайдаўся з боку ў бок, нібыта спрабаваў суняць боль.

Марыя амаль супакоілася, як раптам Колька глуха закрычаў праз сон:

— Бяссмертнік цвіце!

Усе здрыгануліся.

— Бяссмертнік цвіце!

Колька плакаў.

Марыя ласкава загаварыла з ім, адвяла ў пакой, які яны дзялілі з малых гадоў.

— Табе трэба паспаць.

— Бяссмертнік…

— Так. Цвіце. Мы збяром яго кветкі і высушым.

— Жоўтыя…

— Так, жоўтыя кветкі.

Марыя накрыла брата посцілкай і зацягнула сумную, яшчэ бабчыну калыханку. У ёй было нешта пра ноч ды яшчэ пра вецер, што бадзяецца па свеце і нідзе не можа знайсці спакою.

Калі Коля заснуў, яна вярнулася ў пакой старэйшых братоў, якія так і засталіся на сваіх месцах. Села. Памаўчала з хвіліну, а потым сурова, зусім як Міласлаў, прамовіла:

— Можа, цяпер вы раскажаце мне, што здарылася ТОЙ ноччу?

## 3

— Мы бераглі цябе як маглі, — спакойна растлумачыў Міласлаў.

— Я маю права ведаць, чаму пасля ТОЙ ночы ў лесе тры мае браты сталі…

— Дагаворвай! — нечакана выбухнуў Максім, узняўшыся ў ложку на локцях. — Кім сталі? Калекамі?! Ты так хацела сказаць? Адзін сляпы, другі бязногі, трэці вар'ят?

Яго словы са звонам адскоквалі ад сцен.

У наступнае імгненне Міласлаў рэзка павярнуўся да Максіма і ўдарыў па твары так, што брат стукнуўся галавой аб сцяну.

— Змоўч! Яшчэ няведама, хто з нас траіх вар'ят! Марыя — твая сястра!

Максім злосна шмаргануў рукавом па вуснах — на тканіне засталася кроў.

— Ты маеш рацыю, дзяўчынка. Прыйшоў час гаварыць. У нашай мясцовасці немцаў больш няма, хутка не будзе паўсюль. Мы выйграем гэту вайну. А памяць павінна застацца, — Міласлаў правёў рукой па палосцы бінту на сваім твары, нібыта здымаючы завесу, якой сам захінуў колісь балючае мінулае.

— Ты ведаеш, Марыя, што наш партызанскі атрад быў чыста мужчынскім. Мы змагаліся разам, яны былі б жывыя і цяпер, каб не я.

— Не ты… — Максім усхапіўся, абураны, але старэйшы брат спыніў яго ўсё тым жа суровым «Змоўч!»

— Мяне злавілі немцы, — Міласлаў зрабіў цяжкую паўзу пасля гэтых слоў. — Я быў неасцярожны, перааценіў свае сілы, мне здавалася: праслізну. Але не… Тры дні яны спрабавалі выбіць з мяне звесткі, у тым ліку і пра месца, дзе знаходзіўся атрад.

Марыя шумна выдыхнула, і на імгненне Міласлаў пашкадаваў пра распачаты аповед.

— Я рабіў выгляд, што не маю ніякага дачынення да партызан, але яны ведалі, хто я, ведалі маё імя і імёны маіх братоў. І тваё таксама, Марыя… На трэці дзень у мяне апошні раз спыталі, дзе ў лесе хаваецца атрад. Я адказаў, што ў вочы не бачыў ні яго, ні партызан. «Што ж, — нечакана лагодна згадзіліся яны, а потым дадалі: — Тады ты ніколі нічога больш не ўбачыш». Далей… Лёгка сабе ўявіць. Не плач, Марыя!

Дзяўчына кіўнула, у чарговы раз здзіўляючыся, як невідушчы Міласлаў угадвае яе пачуцці.

— Здаецца, я праляжаў некалькі гадзін у падвале. Калі па мяне прыйшлі, быў ужо вечар. Я адчуваў гэта па цеплыні сонечных промняў. Мяне прывялі ў той жа пакой. Здаецца… І мне на шыю, ледзь толькі пераступіў парог, кінулася жанчына. Я пазнаў яе рукі, чамусьці рукі, а не голас, што прамаўляў: «Гэта я, любы. Каця…» Я абняў яе і нічога не мог зразумець. Тады нейкі немец сказаў па-нашаму: «Гэта твая жонка. Яна толькі што здала нам ваш партызанскі атрад». Я вушам сваім не паверыў, хацеў адштурхнуць Кацю, але яна ўчапілася ў мяне, плакала і паўтарала, што сваім учынкам хацела выратаваць маё жыццё. Я слухаў, і апошнія сілы пакідалі мяне. Я хацеў задушыць яе, не сыходзячы з месца, і адначасова не мог. Як?! Маю жонку? З якой…

Словы нібыта скончыліся. Марыя асцярожна падышла да Міласлава, села прама на падлогу ля яго ног. Каб быць бліжэй.

— Прабач, родны.

— Нічога. Я раскажу далей. Шкада толькі, што не магу больш плакаць. Няма чым.

Марыя пацалавала яго руку.

— Мы доўга стаялі так, абняўшыся. А потым той жа немец злосна выбухнуў: «Вы — вар'яцкі народ! Калі самі не караеце сваіх здраднікаў, гэта зробім мы!» Я не паспеў зрэагаваць. Адзін стрэл. Адзін крык. І Каця абмякла ў маіх руках. Я не даў ёй упасці. Яна была маёй жонкай… Немец сказаў: «Цяпер ідзі!» — і я пайшоў. Перада мной пачціва адчынялі дзверы. Я крочыў і чакаў кулі ў спіну — яе не было. Каця ляжала на маіх руках, ёй не дапамог бы ўжо ніхто. Я разумеў, што трэба папярэдзіць сваіх пра небяспеку, але дарога была надта далёкая і заблытаная для сляпога. Я ўсё ж ішоў. Мне было цяжка. І страшна. І ліліся слёзы адчаю, калі чапляўся за нябачны ў цемры корань і падаў. Каці больш не балела, а мне… Я хацеў кінуць яе і не мог. Я быў ва ўсім вінаваты.

— Не ты, — нясмела падала голас Марыя. — Яна…

— Яна — гэта я. Мая жонка. Я не разглядзеў у ёй здрадніцы раней і плаціў за гэта тады. Я дайшоў да атрада толькі праз дзень, а там…

— Пачакай, Міласлаў, — Максім цяжка сеў на ложку. — Далей павінен расказваць я.

Старэйшы брат кіўнуў.

## 4

Марыя ўстала з падлогі, каб перасесці на ложак Максіма.

— Калі Міласлаў не вярнуўся з задання, мы зразумелі, што з ім здарылася бяда, але тады ніхто з нас ні на імгненне не ўсумніўся, што, трапіўшы ў лапы ворага, мой старэйшы брат нікога не выдасць. А Коля, наш дурненькі Колька Бяссмертнік, шкадаваў, што на тое заданне паслалі не яго. Чаму? Кольку заўсёды шанцавала, нібыта нешта берагло яго. Некалькі разоў быў паранены, ты ведаеш, Марыя. Зажывала як на сабаку. Худзенькі, непрыкметны, знаходлівы і смелы амаль да дурасці, ён мог у любую дзірку пралезці, любыя звесткі здабыць. Герой! Таму яго і пачалі Бяссмертнікам клікаць. А Колька што? Сам дзівіўся сваёй жывучасці!

Марыя бачыла, як стрымліваецца Міласлаў, каб не перапыніць запальчывага брата. «Няма чаму тут зайздросціць», — чыталася ў яго вачах.

— Калі ў прыцемках да нашага лагера падышлі немцы, я… — Максім раптам змоўк, выбіраючы словы.

— Ты аглушыў Кольку прыкладам і замкнуў, — падказаў Міласлаў.

— Адкуль ты ведаеш?!

— Я — твой брат. Ты добра зрабіў. Выратаваў.

— Бяссмертніка? — засмяяўся Максім.

— Сябе. Сваю душу.

Сярэдні брат пачырванеў аж да болю.

— Працягвай.

— Нас было дзесяць без Колькі. А іх… безліч, ці нам здавалася ў прыцемках? Раны не пазбег ніхто. Не разумею, чаму нас не дабілі. Калі немцы пакінулі лагер, я папоўз да таго месца, дзе зачыніў Кольку, і ў ліхаманцы ад дзікага болю, відаць, памыліўся з кірункам. А потым сілы скончыліся. Я плыў паміж явай і сном. Мог бачыць, што адбываецца ў лагеры і яшчэ… Адчуваў пах бяссмертніку. Так!

Марыя паглядзела на яго вачамі, поўнымі болю:

— Бяссмертнік вельмі слаба пахне, Максім…

— Ведаю. Відаць, мае пачуцці абвастрыліся ці я трызніў. Потым быў дзень, мне вельмі балела нага, але пачаў прызвычайвацца да гэтага. А тыя, іншыя дзевяць нашых, стагналі так страшна! І яшчэ бразгатаў замок. Відаць, Колька ачуняў, чуў тыя ж крыкі і хацеў выбрацца. Я не дапамог. Я не хацеў, каб ён бачыў гэта ўсё. Яму толькі 16… А вечарам Колька ўсё ж выбраўся. Была поўня, як сёння. Моцна ліў дождж. Напэўна, ужо тады з яго галавой не ўсё было ў парадку. Выплываючы са свайго балючага забыцця, я назіраў за тым, як ён капае яму, перацягвае ў яе ўжо маўклівых людзей і лічыць іх уголас. Таму і цяпер ён увесь час лічыць. Я дапоўз да Колькі толькі тады, калі яма была засыпана. Ён сядзеў на камені, бязгучна плакаў і хістаўся. І яшчэ гаварыў нешта пра бяссмертнік… У яго былі зусім дзікія вочы. Мы прычакалі раніцы, калі дождж сціх і па лесе папоўз туман. Колька пільна ўглядаўся ў яго, а потым сказаў, што нехта ідзе да нас і нешта нясе на руках. Я не паверыў. Дурань! Падумаў: мала што вар'яту прымроіцца? А гэта…

— Быў я, — Міласлаў цяжка ўздыхнуў. — Каця пахаваная там жа.

— І мы.

Марыя і Міласлаў адначасова павярнуліся на гэтыя словы Максіма. Ён вытрымаў і суровы позірк сястры, і доўгае, на некалькі хвілін, напятае маўчанне.

Загаварыла Марыя.

— Вы жывыя. Памерці немагчыма. Асабліва цяпер, калі вайна амаль скончана. Смерці было занадта шмат. Наперадзе — адно бяссмерце. Вы будзеце жыць вечна, — упэўнена падкрэсліла яна, — бо…

Дагаварыць Марыя не паспела: рыпнулі дзверы, і Колька, з'явіўшыся на парозе, зусім спакойна сказаў:

— Бяссмертнік цвіце…

Дзяўчына ўсхапілася, за руку прывяла малодшага брата да астатніх, каб усе яны былі разам.

Міласлаў разумеў адно: апошняе слова за ім.

— Ведаеце, — ён раптам шчасліва ўсміхнуўся, як тады, да вайны, — мы сапраўды будзем жыць, каб помніць. Мы — той бяссмертнік, што расце на баявых курганах і брацкіх магілах. У народзе нездарма кажуць, што гэтыя сумныя, мудрыя кветкі абараняюць сон і спакой загінуўшых, не даюць вятрам і часу сцерці з зямлі памяць пра іх.

— Так! — Марыя радасна пагадзілася. — Гэта і дзядуля гаварыў. Памятаеце? Ён казаў, што бяссмертнік могуць знайсці толькі невідушчыя людзі. Калі яны наступаюць на яго, іх ногі працінае боль.

— Іх сэрцы, — нечакана паправіў сястру Максім. — Цяпер не толькі Колька — мы ўсе Бяссмертнікі. Наш бяссмертнік…

Дагаварыць ён не паспеў, бо малодшы шчасліва, як умеюць толькі дзеці, запляскаў у далоні і выгукнуў:

— Цвіце!

# ...Баліць жывым




**Чытач аповесці Васіля Быкава «Мёртвым не баліць» звычайна не задумваецца над тым, што гэта назва мае свой працяг, як мае працяг і народная прымаўка, якую наш выдатны пісьменнік выкарыстаў як назву. А менавіта: «...баліць жывым!» Частотны слоўнік аповесці пацвярджае, што менавіта слова «боль» у быкаўскім творы сустракаецца найчасцей.**

У пераліку магчымых аўтарскіх загалоўкаў сустракаем: «Ноч пасля свята», «Расстраляны стэп», «Асколак у сэрцы», «Некалькі дзён вайны», «Мёртвыя не ўспамінаюць», «Мёртвыя не заплачуць», — выбар Быкава быў трапным, і іншай назвы, як «Мёртвым не баліць», мы ўжо не ўяўляем. Даследчык жыцця і творчасці В. Быкава Сяргей Шапран, на рахунку якога налічваецца каля паўтузіна кніг, прысвечаных празаіку, адшукаў пералічаныя варыянты назваў у двух нататніках, знойдзеных малодшым сынам пісьменніка Васілём Быкавым зімой гэтага года ў Гродне.

Менавіта С. Шапрану мы сёння абавязаны тым, што маем унікальную магчымасць сустракацца з Быкавым і пасля таго, як самога яго не стала, чытаць яго, дагэтуль невядомага нам або часта моцна скажонага брутальнай савецкай цэнзурай. Сам Быкаў прызнаваўся ў інтэрв'ю «Литературной газете»: «Мне, например, долгие годы не удавалось опубликовать ни одной вещи, которая бы не была испохаблена редактурой. Степень этой испохабленности зависела от многих причин, в том числе и от уступчивости автора тоже. Потому что в конце концов автор мог бы не издавать своей вещи, прекратить печатание. Но часто получалось так, что автор к моменту публикации был предельно истерзан, лишён сил и надежд, воля его была подавлена, всё было немило — лишь бы закончилось поскорее…»

Гэтым разам чытач можа пазнаёміцца з сапраўдным Быкавым, якім ён быў у рэальным жыцці і ў бурным творчым пошуку. Перад намі падрыхтаваная і выдадзеная С. Шапранам аповесць «Мёртвым не баліць», якая пазначана чырвоным штампам «Без цэнзуры» на вокладцы. А разам з ёю — «Пасляслоўе» ўкладальніка, якое змяшчае запісаны на магнітафонную стужку дыялог Васіля Быкава з Алесем Адамовічам. Асобнае месца тут займаюць пытанні інтэрв'юера, таксама ветэрана вайны і сусветна вядомага празаіка, які ведаў, як разгаварыць не вельмі гаваркога калегу і сябра, тым больш што размова закранала надзвычай хваравітыя згадкі аўтара «Мёртвым не баліць» пра бой, дзе гінуць амаль усе героі твора.

Прататыпам лейтэнанта Васілевіча стаў сам Васіль Быкаў. Прынамсі, камандзіру яго артылерыйскага батальёна здалося, што баец загінуў, і ён даслаў бацькам у Беларусь абвестку аб яго пагібелі. Беларускі пісьменнік Васіль Быкаў, як сведчаць дакументы і абеліск, «забіты і пахаваны» ў брацкай магіле каля вёскі Севярынка Кіравагарадскай вобласці ва Украіне. Яго родныя, бацька і маці, брат і сястра, атрымалі пахавальную і аплакалі сына і брата. У асабовай справе пісьменніка знаходзіцца кароткі запіс: «Паранены 7.1.1944 пад Кіравагарадам і 17.12.1944 пад Секешфехерварам (Венгрыя)». З архіва Міністэрства абароны СССР пісьменніку пасля вайны даслалі даведку: «Адначасова паведамляю, што ў імянным спісе беззваротных страт 399-га стралковага палка за 1943 — 44 гг. значыцца: «Камандзір стралковага ўзвода лейтэнант Быкаў Васіль Уладзіміравіч забіты 10.1.1944 г., пахаваны на цэнтральных магілках вёскі Вялікая Севярынка Кіравагарадскай вобласці». На шчасце, пошта даслала ліст самога Быкава, што ён знаходзіўся ў шпіталі: на канверце стаяла іншая дата, чым у запозненай абвестцы пра яго смерць. Выдатны празаік Чынгіз Айтматаў пісаў: лёс злітаваўся і падараваў свету Вялікага пісьменніка.

Як усё было насамрэч, Васіль Быкаў уражліва апісаў у аповесці «Мёртвым не баліць», цалкам пабудаванай на аўтабіяграфічным матэрыяле. Дакладна і падрабязна прадстаўлена ў тэксце тапаграфія: украінскія вёскі Вялікая Севярынка, Іваніўка, Кіраваград. Прозвішча галоўнага героя таксама абрана невыпадкова: Васіль — Васілевіч. Дарэчы, гэты прыём аўтабіяграфізму, які саграваe аповед, неаднаразова сустракаецца і ў іншых мастацкіх тэкстах пісьменніка: Васіль Глечык («Жураўліны крык»), Васюкоў («Праклятая вышыня»), Валошын (ад беларускага *валошка* — васілёк; «Яго батальён»). Усё перажыта не толькі малодшым лейтэнантам Васілевічам, але і самім Васілём Быкавым. На наша шчасце, мы маем выдатную магчымасць азнаёміцца з аўтэнтычным аўтарскім тэкстам, дзе С. Шапран старанна і паслядоўна аднавіў каля 200(!) скарачэнняў, здзейсненых цэнзурай і выдзеленых у тэксце асобным шрыфтам і малюнкам нажнічак на палях.

У колішняй баладзе Янкі Купалы «Паэта і цэнзар», напісанай на досвітку ўзнікнення савецкай цэнзуры, ёсць радкі, якія адпавядаюць здзейсненаму цэнзурай 1960 — 1980-х гадоў з быкаўскімі тэкстамі. «Паэта» пісаў: «Зваліце кароны і троны, — / Ужо досць каралёў і цароў! / Хай будзе народу ўладарства / І панства зямлі жыхароў!» А цэнзар пагладзіў: «Шануйце кароны і троны… / О, чэсць каралям і царам! / Патрэбны народу прынука, — / Патрэбны бізун жыхарам!» У вернутым складальнікам кнігі рукапісе, пра які сам Быкаў сумняваўся, што ён не згінуў і што насамрэч існуе ў сямейных і дзяржаўных архівах, дастаткова прачытаць узноўленыя радкі, а месцамі і цэлыя старонкі, страчаных надзвычай уражальных падрабязнасцей, каб пераканацца ў тым, што цэнзар старанна вынішчаў тыя мясціны, дзе прысутнічалі згадкі пра фантомны боль, які перажывае герой аповесці лейтэнант Васілевіч і які зразумелы большасці нашых сучаснікаў.

Гэты боль абвастраецца ў хвіліны роздуму пра пагібель калег і сяброў Васілевіча, калі ён міжволі шукае віноўніка трагедыі («тых, што загінулі ад яго і праз яго»). Герой заўважае і запамінае ўсё, што кажа адзін з салдат, які трапіў у палон: «Што глядзіш? Асуджаеш? Так? Асуджаеш! Дванаццаць на дзвесце, думаеш, дзе? У зямлі! І думаеш, злачынцы? Дудкі! З палону папрыбягалі. Не ўседзелі да канца вайны. Во! Хто сёння ў героях? Брэсцкая крэпасць і так далей! А я чацвярых з Брэсцкай крэпасці на Сандамірскім закапаў. Во! Тады не пыталіся, як у палон здаўся. Пыталіся, чаму не застрэліўся. Ясна!» І гэтыя словы, рваныя фразы, незавершаныя сказы, што выбухаюць у душы любога, хто перажыў тое, чаму няма назвы, рашуча выдаляліся, закрэсліваліся.

Аўтара аповесці папракалі ў наўмысным згушчэнні фарбаў, у празмерным нагнятанні трагічнага гучання, у прыземленасці паказу і дэгераізацыі персанажаў, у адсутнасці савецкага патрыятызму, нарэшце, у рэмарксізме, а менавіта ў некрытычным перайманні Э. М. Рэмарка. Напрыклад, словы, што з гонарам прамаўлялі многія героі многіх твораў пра Першую і Другую сусветную войны, а менавіта «франтавая таварыскасць», бязлітасна вынішчаліся. Так нечакана выявілася паўвекавая адсталасць літаратуры сацрэалізму ад вялікай класічнай традыцыі, якая заўсёды лічыла праўду мэтай рэалістычнага мастацтва. Адгукнулася і тагачаснае высакамерна-чыноўніцкае разуменне мастацкай літаратуры як звычайнай партыйнай прапаганды вобразна-ілюстратыўнымі сродкамі.

Прыклады можна памнажаць і памнажаць, яны самі па сабе ўражваюць і выклікаюць глыбокія пачуцці і высокі роздум пра свет і чалавека ў свеце. Складальнік кнігі В. Быкава свядома парушае тэксталагічныя законы, каб чытач не блытаўся, шукаючы вынішчаныя цэнзурай мясціны ў каментарыях, а перажыў слодыч чытання сапраўдных быкаўскіх тэкстаў.

Дзве трэці кнігі ўспрымаюцца як дапаўненне да галоўнага тэксту аповесці. Гэта грунтоўнае ўзнаўленне драматычнай гісторыі супрацьстаяння пісьменніка грамадскай сістэме, якая забывае пра асобнага чалавека. Гэта дэтэктыўныя сюжэты пра тое, як аповесць публікавалася ў часопісе «Маладосць» і якія захопленыя водгукі крытыкаў сустрэлі яе з'яўленне. Як узмацнялася, паводле слоў самога Быкава, «степень идеологического остервенения», калі аповесць была апублікавана ў часопісе «Новый мир». Як ратавалі любімага пісьменніка яго калегі і чытачы, якія яшчэ не згубілі здольнасці ўспрымаць праўду, і як Аляксандр Твардоўскі падымаў яго дух, нагадаўшы рускую народную прымаўку «Всё минется, а правда останется». «Ліст 53-х» беларускіх пісьменнікаў, якія ў 1966 годзе адчулі вострую неабходнасць абараніць свайго калегу ад несправядлівых нападак тых, хто сапраўды «отставал от времени» («Когда отстают от времени» — так называўся артыкул у партыйнай газеце «Правда», дзе згадваўся не толькі В. Быкаў, але і іншыя пісьменнікі, якія ў наш час маюць законны статус класікаў літаратуры). Падрабязна на фактах з 1970 — 1980-х гадоў апісваецца далейшы драматычны лёс твора, які нядаўна ўдзельнікі «круглага стала» БТ «Время Союза», прысвечанага 90-годдзю з дня нараджэння Васіля Быкава, адзінагалосна назвалі лепшым творам беларускага пісьменніка…

**Міхась ТЫЧЫНА**

# Манаграфія без стэрэатыпаў

Сяргей Новікаў — кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі, сусветнай культуры і турызму Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта — даўно вядомы глыбокімі працамі ў галіне айчыннай ваеннай гісторыі. Апошняя з іх — манаграфія «Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў».

З мінскім даследчыкам можна пагадзіцца ў тым, што «за сем пасляваенных дзесяцігоддзяў прафесійнымі навукоўцамі так і не былі знойдзены адказы на асобныя, у першую чаргу спрэчныя пытанні пра ход абарончых баёў на тэрыторыі Беларусі ў першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны». Бясспрэчны прарыў у гістарыяграфіі краіны зроблены ў першым раздзеле «Новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі», першая глава якога прысвечана гісторыі нямецкага штурму і савецкай абароны Брэсцкай крэпасці. Не менш важна, што навуковец задае алгарытм будучым даследчыкам праблемы. У манаграфіі чытаем: «На цяперашні час відавочна, што ў канву гісторыі ўпартай абароны крэпасці з першага дня неабходна ўплятаць белую нітку палону, без якой не будзе аднаўлена поўнае палатно ўсіх баявых падзей на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці летам 1941 г. На падставе выяўленых дакументаў неабходна раскрыць поўную карціну трагедыі савецкіх ваеннапалонных: паказаць рэальныя маштабы палону, аднавіць яго храналогію, прасачыць лёс абаронцаў крэпасці ў нямецкім палоне, і такім чынам упісаць у гісторыю абароны і пантэон памяці абаронцаў імёны тысяч савецкіх ваеннапалонных».

Таксама ў манаграфіі аналізуецца Лепельская аперацыя: лакальныя контрудары Заходняга фронту на лепельскім напрамку ў ліпені 1941 г. Аўтар манаграфіі выказвае арыгінальныя і ў той жа час пераканаўчыя меркаванні адносна храналагічных рамак баёў на Віцебшчыне; агульнай колькасці танкаў, якія ўдзельнічалі з абодвух бакоў у баях пад Сянно; страт, панесеных з абодвух бакоў у ходзе танкавых баёў на Віцебшчыне і інш.

Навукоўца прадэманстраваў даследчыцкі талент і ў трэцяй главе, прысвечанай праблемнаму комплексу, звязанаму з дняпроўскім рубяжом пад Магілёвам. Ён рашуча разбурае стэрэатыпы, якія «першапачаткова былі ўведзены ў шырокі ўжытак у мемуарах савецкіх военачальнікаў і афіцыйных выданнях». Сяргей Яўгенавіч першым з беларускіх даследчыкаў выявіў шмат нестыковак, шукаючы адказ на такое пытанне: «На чым пабудавана пануючае ў айчыннай гістарыяграфіі сцвярджэнне аб 30 тысячах нямецкіх салдат і афіцэраў, якія загінулі ў баях пад Магілёвам?» Імкнучыся да навуковай ісціны, мінскі беларусазнаўца звяртаецца да «дакументаў непасрэдных удзельнікаў штурму горада — дзённікаў баявых дзеянняў чатырох нямецкіх дывізій». Гэтыя крыніцы далі падставы для наступных высноў: «Агульная лічба страт складала: 3765 афіцэраў, унтэр-афіцэраў і радавых, з якіх былі забіты 727 чалавек, паранены — 2867, зніклі — 17».

С. Новікаў даследуе франтальную наступальную аперацыю на Гомельшчыне: «вынікі больш чым месячнай бітвы на Гомельшчыне паўплывалі на ўнясенне карэкціроўкі ў першапачатковыя планы немцаў ва ўсходняй аперацыі і нават прывялі да змены ўсёй стратэгіі «маланкавай вайны». Лакальныя і абмежаваныя поспехі Заходняга і Цэнтральнага франтоў на Гомельшчыне сталі першымі крокамі да краху стратэгічнай аперацыі «Барбароса».

Другі раздзел манаграфіі «Дакументы і матэрыялы» надзвычай важны ў крыніцазнаўчым сэнсе. «Манаграфія з'яўляецца першым у нашай краіне і на прасторах СНД зборам замежных дакументальных крыніц, якія не толькі ўтрымліваюць найважнейшыя звесткі аб баявых дзеяннях германскага боку, але і паказваюць шматлікія факты вядзення ўпартай абароны Чырвонай арміяй на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г. Абсалютная большасць прадстаўленых у кнізе матэрыялаў практычна ніколі не перакладалася на беларускую і рускую мовы, таму фактычна была недаступная для многіх айчынных даследчыкаў».

У «Дадатках» змешчаны карты, баявыя схемы, факсіміле дакументаў, табліц.

Выхад манаграфіі «Беларусь улетку 1941 года: новыя падыходы ў даследаванні баявых дзеянняў» — знакавая падзея для айчыннай беларусістыкі. С. Новікаў задаў планку якасці даследчыцкага працэсу. Разам з тым трэба адзначыць асоб, якія сур'ёзна дапамаглі яму ў працы. Гэта К. Зарэцкая, С. Паўлавіцкі, Н. Кушнер, А. Калбаска, А. Цымбала.

**Міхась СТРАЛЕЦ**

# Вайна і грэкі

**Прадстаўляць чытачу Георгія Марчука няма сэнсу, таму адразу пяройдзем да яго новай кнігі — зборніка п'ес «Пеўчыя 1941 года», што выйшаў сёлета ў Выдавецкім доме «Звязда».**




*Марчук, Г. В. Пеўчыя 1941 года: п'есы / Георгій Марчук. — Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2014. — 368 с.*

Назву зборніку дала п'еса, якой адкрываецца кніга, і разглядаць яе (кнігу) варта, падзяліўшы папярэдне на дзве часткі: у першую ўвойдуць дзве драмы, прысвечаныя вайне і сучаснаму войску, у другую — нечаканае як на сёння вяртанне да антычнасці. Узнікае пытанне: навошта вяртаць з грабніц спачылых Менелая і Елену, Парыса і Касандру ды іншых шаноўных спадароў Старажытнай Грэцыі? Адказваць на яго мы будзем пазней, а пакуль што спынімся на першай частцы, «ваеннай».

I

Цягам усёй п'есы «Пеўчыя 1941 года» Георгій Марчук абыгрывае метафару (яна ж і сімвал, яна ж і лейтматыў), закладзеную яшчэ ў назве твора.

Акупіраваная нямецкімі войскамі беларуская вёска. Айцец Вікенцій набірае з групы ваеннапалонных царкоўны хор, які павінен спяваць, каб жыць, і спяваць хораша, а гэта значыць, тое, што загадаюць. Яны насалоджваюць слых немца Хорста Мантопфера, выконваюць паніхіду па яго загінуўшым браце, але ўрэшце, пад заслону, наважваюцца выйсці з-пад улады злавеснай дырыжорскай рукі і спяваюць ужо для народа, тое, што падказвае сэрца, мараль, годнасць... Пры тым, што метафара празрыстая, у п'есе яна не падаецца банальнай, і Г. Марчук удала праводзіць яе ад першага да апошняга акта.

Цэнтральны персанаж п'есы айцец Вікенцій выступае як увасабленне духоўнасці. Вельмі ўдалым атрымаўся і характар паліцая Кульбакова. Адмоўны герой выглядае жывым, у многім дзякуючы кантрастам, якія выяўляюцца і ў яго паводзінах, і ў мове.

Ёсць заўвагі да грубай лексікі, якую аўтар ужывае смела і нават з задавальненнем. Канфлікт у «Пеўчых 1941 года» наспявае вакол царкоўнага золата, на іншым узроўні гаворка ідзе пра барацьбу дабра і зла, пра здраду, веру, мужнасць і слабасць асобна ўзятага чалавека, закранаецца адвечная тутэйшасць і нават «шындлераўскі комплекс» (святар пакутуе, што не змог уратаваць больш палонных)…

П'еса «Пісьмы салдату» нагадвае сцэнарый для вайсковага серыяла. Побыт салдат, некалькі сюжэтных адгалінаванняў (здрада дзяўчыны, «разборкі» з адценнем крыміналу, забаўны салдат Мехмон і яго бабуля на далёкім Усходзе — дарэчы, адзін з самых чалавечных момантаў у п'есе), думкі аўтара пра Радзіму, службу, каханне і ролю грошай у жыцці — вось асноўныя складнікі п'есы.

Пытанне: у кнізе беларускамоўны тэкст раптам пераходзіць у рускамоўны, а праз пару абзацаў зноў вяртаецца да мовы. Гэта такая таямнічая задумка аўтара ці недагляд выдавецтва?

II

Зварот да антычнай тэмы заўжды вельмі спакушальны: гэта як папіць з жыццядайнай крыніцы.

У беларускай літаратуры самы знакаміты зварот да антычнасці — гэта парадыйныя паэмы «Энеіда навыварат» ды «Тарас на Парнасе». П'есы Г. Марчука «Менелай, Елена і Парыс» ды «Арэст і Касандра» недзе паміж падобнымі пародыямі і пераасэнсаваннем старых сюжэтаў.

Такая спецыфіка матэрыялу: калі бярэшся апісваць старажытныя трагедыі, з якіх вырасла ўся еўрапейская — і затым амерыканская англамоўная літаратура (лічы, літаратура паловы свету), ты мусіш прытрымлівацца пэўнага стылю, назавём яго «высокім». Выключэнне — новыя трактоўкі, калі ад вядомага сюжэта бярэцца толькі фабула, а час ды месца змяняюцца, і, зноў жа, пароды. Тут «нізкі» стыль выкарыстоўваецца наўмысна.

Г. Марчук ідзе новым шляхам: пакідае класічнае месца дзеі, класічны сюжэт, герояў, але ўкладвае ў іх вусны такія словы, якія мог бы прамовіць наш Несцерка. Як ставіцца да такога «літаратурнага па»? Мастака трэба «судзіць» (зважайце за такое грознае слова) па яго ж законах, таму ацэнка залежыць ад таго, ці наўмысна Г. Марчук пайшоў на гэта, ці выпадкова перайшоў пэўную мяжу. Калі ўдзельнікі Траянскай вайны на поўным сур'ёзе гавораць, што ўсім воінам даўно ўжо сніцца «хата», мы не можам не адчуваць пэўную няёмкасць: якая хата ў Старажытнай Грэцыі? Ці вось гэтае «Зеўс хлопец хоць куды, / На дзевак падкі» з вуснаў Ганімеда.

У сярэдзіне першай «антычнай» п'есы Г. Марчука ловіш сябе на думцы, што гэта ніякія не Ганімед ды Кікід і не Елена з Менелаем, але мальераўскія персанажы, якія задумалі чарговы жарт і прабраліся ў чужую п'есу, начапіўшы грэчаскія маскі.

Сапраўды, аўтару трэба было б напісаць камедыю, тым больш што ўсе дадзеныя для гэтага ёсць: па-першае, уменне дасціпна, ёміста выказаць думку (нездарма ж ён выдаў некалі кнігу афарызмаў), па-другое, абазначаны ўжо стыль, лёгкі, грубаваты і гэтым жывы. Тут яны — наш Марчук і французскі Мальер — сыходзяцца: абодва жадалі напісаць антычную драму, а талент выявіўся да камедыі.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Сучасны сюжэт для айчыннага Галівуда

**Напэўна, многія задумваліся пра тое, якім мог бы быць папулярны фільм, прысвечаны беларускай сучаснасці, — ды каб не толькі смешны альбо заблытаны, але і азначаны яднальнай, патрыятычнай ідэяй. Знайсці цікавую задуму — стварыць сюжэт, выбраць герояў і месца дзеяння — справа няпростая, але паспрабаваць варта!**




*Этот волшебный мир кино: киноповести / Олег Буркин, Сергей Трахимёнок. — Минск: Издательский дом «Звязда», 2014. — 296 с.*

У кнізе «Гэты чароўны свет кіно» Сяргей Трахімёнак прадстаўляе кінааповесць «Міленіум у Аўсюках» — камічны дэтэктыў, дзе супрацоўнікі мясцовай міліцыі ў апошнія дні другога тысячагоддзя выпраўляюцца разблытваць дзіўную справу, якая вырашае многія даўнія супярэчнасці. Вёска Аўсюкі (у сапраўднасці Аўцюкі) вядомая як сталіца беларускага гумару, таму дзякуючы яго жартаўлівым жыхарам, здатным на самыя розныя ўчынкі, твор набывае неабходную нацыянальную адметнасць. Аўтар не апантаны ідэалізацыяй землякоў — яго персанажы выглядаюць рэалістычна.

Па прыкладзе аўсюкоўцаў у нашага народа ёсць усё патрэбнае для добрага жыцця: пачуццё гумару, прадпрымальнасць, уменне паразумецца, каб пазбегнуць вялікіх непрыемнасцей. Цікавым падаецца погляд аўтара на ролю беларускай мовы ў сучасным грамадстве. Персанажы нібы хаваюцца за яе ў стасунках з незнаёмымі людзьмі, каб вызначыць, ці варты шчырасці суразмоўца, а пераход на мову большасці робіцца сведчаннем добразычлівасці альбо пачатку «важнай» размовы. Твор завяршаецца развагамі пра лёс «патриота своей вёски и своей земли» міліцэйскага афіцэра Аўласевіча. Разам з «Міленіумам…» у кнізе змешчаны дзве кінааповесці Алега Буркіна, напісаныя на ваенную тэматыку. Жанр мае свае характэрныя рысы (драбленне дзеяння на кароткія эпізоды, лаканічнасць дыялогу і аўтарскіх тлумачэнняў, мантажны характар эпізодаў), але творы А. Буркіна і С. Трахімёнка прыкметна адрозніваюцца між сабой. Кінааповесці Буркіна — бліжэй да сцэнарыя: аўтар у кожным эпізодзе азначае час і месца дзеяння, апісвае знешні выгляд і эмацыянальны стан персанажаў, іх рухі, жэсты, міміку, інтанацыю. Апісанне, дзея, дыялог — нічога іншага, збыткоўнага, у гэтых творах няма. «Міленіум…» С. Трахімёнка па стылі бліжэй да мастацкай прозы: пісьменнік звяртаецца да рэтраспекцыі, дапускае аўтарскія адступленні, апісвае характар, схільнасці, захапленні галоўных персанажаў. Каб ператварыць кінааповесць у тэлефільм, патрэбны крэатыўны рэжысёр, які знайшоў бы цікавы фармат і для аўсюкоўскіх анекдотаў, з якіх пачынаецца кожны новы эпізод, і для шматлікіх кадраў з мінулага герояў.

На гэты час, паводле прадмовы, толькі адзін твор з трох апублікаваных у кнізе быў увасоблены сродкамі кінематографа. У 2011 годзе быў зняты васьмісерыйны фільм па сцэнарыі А. Буркіна «Заяц, смажаны па-берлінску». Два кухары-сябры выпраўляюцца на Айчынную вайну, нягледзячы на тое, што маюць законную бронь ад рэстарана «Метраполь»: аднаму з іх прыходзіць «пахаронка» на сына, і ён разумее, што «Когда другие в окопах… Противно смотреть на сытые и пьяные рожи». Поўны кавалер ордэна Славы, Ломаў сустракае сына жывым і бадзёрым: пасля ранення Ваня ачуняў у шпіталі і вярнуўся ў родную вайсковую часць. Воінскія справы сяброў выглядаюць даволі вясёлымі, і ордэнамі іх узнагароджваюць за смеласць і вынаходлівасць.

У другой кінааповесці А. Буркіна — «А жыць, браткі, будзе можна» — смешных эпізодаў значна менш, і дзеянне твора адбываецца ў Афганістане, дзе падчас вайны служыў і сам аўтар. Галоўныя героі — генерал Васіль Ягоравіч, яго жонка Таццяна, нейрахірург, і сын — камандзір роты, афіцэр Аляксандр, які вырашае ваяваць «за рэчкай». На адной з баявых аперацый ён ратуе з пажару афганскую дзяўчынку, доўга ляжыць у бальніцы, затое знаёміцца з будучай жонкай… Гэтая кінааповесць — самы вострасюжэтны твор у кнізе, драпежнага выгляду «духаў» тут без праблем падманваюць, забіваюць, перамагаюць, а савецкі байцоў за кожны гераічны ўчынак зноў шчодра ўзнагароджваюць ордэнамі. Творам А. Буркіна не ўласцівы быкаўскі экзістэнцыялізм, яго героі не схільныя рэфлексаваць над тым, з якой падставы і дзеля чаго варта несці смерць іншым. Жаданне Аляксандра служыць у Афганістане, прыярытэт вайсковай службы над уласным жыццём і шчасцем блізкіх у выпадку Васіля Ягоравіча — дадзенасць, якая не патрабуе абгрунтавання. Гераізм на вайне вітаецца, сумневаў у мэтазгоднасці афганскай кампаніі няма — А. Буркіну ўласцівыя традыцыйныя погляды, абавязковыя для ваеннага чалавека. Ёсць у творы і эпізод сустрэчы Аляксандра з маці забітага саслужыўца, але ці дастаткова гэтага, каб выявіць антыгуманнасць вайны? Магчыма, дзеля будучыні людзей пра яе трэба пісаць зусім з іншых пазіцый?

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Палац Радзівілаў: веліч назаўсёды

Летась Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» стаў самым папулярным у Беларусі: больш як 400 тысяч наведвальнікаў пазнаёміліся з яго ўнікальнай экспазіцыяй. Якім чынам былая рэзідэнцыя Радзівілаў збіраецца ўтрымліваць першынства? З такім пытаннем мы звярнуліся да дырэктара музея-запаведніка Сяргея Клімава.



Фота Наталлі Жэрка

— Сапраўды, у 2013-м турысты, ды і мясцовыя жыхары, не абміналі наш музей. Гэтаму шмат у чым паспрыяла харызма самога месца, праведзеная рэстаўрацыйная праца, вернутая палацаваму ансамблю былая веліч, цікавая экспазіцыя, новыя музейныя праграмы. Музей-запаведнік арганічна ўвайшоў у культурнае жыццё краіны не як манапаліст, а дзякуючы якасным і колькасным паказчыкам сваёй дзейнасці. Мы гатовыя дапамагаць і дапамагаем іншым калегам-установам стаць цікавымі для наведвальнікаў.

**— У 2012 годзе Нясвіж быў культурнай сталіцай Беларусі…**

— Падчас правядзення акцыі, якая, вядома ж, прыцягнула ўвагу турыстаў да Нясвіжа, у нас прайшло шмат культурных мерапрыемстваў, адмысловых выставак. Адна з самых яркіх падзей — адкрыццё Палацавага ансамбля. Музей удзельнічаў у дзясятках мерапрыемстваў, у тым ліку і агульнанацыянальных: канцэрты, выстаўкі, палацавы баль і многае іншае. Гасцям спадабалася атмасфера, якая панавала ў палацы. І ў адрозненне ад традыцыйных музеяў людзі жадаюць зноў і зноў вяртацца сюды па новыя эмоцыі, якія выклікае старадаўняя рэзідэнцыя князёў Радзівілаў.

**— Што яшчэ прапануе музей акрамя наведвання экспазіцыі і экскурсійнага абслугоўвання?**

— Распрацаваны шэраг лекцый, музейна-педагагічных заняткаў, існуе больш як дзесяць экскурсійных маршрутаў. Найбольш папулярныя — экскурсіі па экспазіцыі Палацавага ансамбля. Пазнавальнымі будуць такія, як «Гістарычная частка Нясвіжа», «Абарончая сістэма замка Радзівілаў», «Стары парк». Тым, хто хоча аглядаць славутасці самастойна, мы можам прапанаваць 150 аўдыягідаў. Пакуль запісана чатыры моўныя версіі, аднак плануем дадаць яшчэ некалькі. Два гады таму ўвялі сезонны маршрут па фартыфікацыях Палацавага ансамбля з наведваннем часткі падземнага хода, якая захавалася.

Вялікай папулярнасцю карыстаецца паслуга тэатралізаванага віншавання маладых у Ратушы і Палацавым ансамблі. Летась да нас завітала больш як 200 пар. Госці палаца могуць скарыстацца паслугамі «Суправаджэнне фотасесій», «Фота ў княжых касцюмах». Немагчыма прайсці міма новай музейнай крамы, дзе прадстаўлены шырокі асартымент сувенірнай і паліграфічнай прадукцыі рознага кошту: ад магнітаў да эксклюзіўных падарункаў. Асаблівым попытам карыстаецца фірменны шакалад музея «Чорная Панна Нясвіжа». Рэгулярна ў музеі праходзяць канцэрты, спектаклі, экскурсіі-анімацыі. Напрыклад, у перадапошнія выхадныя чэрвеня запрашалі наведвальнікаў на традыцыйныя «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў».

**— Нашчадкі князёў Радзівілаў часам наведваюць Нясвіж. Ці плануюцца нейкія праекты з іх удзелам?**

— У нас добрыя стасункі з нашчадкамі роду. Напрыклад, вядомы калекцыянер і мецэнат Мацей Радзівіл неаднаразова перадаваў у падарунак запаведніку розныя прадметы. У 2013 годзе ў музеі з'явілася калекцыя копій Радзівілаўскіх медалёў, вялікая частка якіх зроблена са срэбра — гэта таксама падарунак Мацея Радзівіла. 19 копій былі выкананы варшаўскім медальерам Ежы Панасюком, які абапіраўся на калекцыю Януша Францішака Радзівіла. Акрамя іх ёсць медаль, зроблены па просьбе Мацея Радзівіла ў гонар 500-годдзя існавання роду Радзівілаў у Нясвіжы і 600-годдзя Гродзенскай уніі.



Фота Наталлі Жэрка

*Вялікая камінная зала.*

У апошні прыезд Мацея Радзівіла ў маі гэтага года ішла размова пра выстаўку яго калекцыі ў Нясвіжскім замку. Гэта посуд, пластыка, карціны, якія раней належалі Радзівілам. Іх збіралі па ўсім свеце. Акрамя таго, мы ўсталявалі кантакты са спадчыннікамі апошняга ардыната нясвіжскага, якія пражываюць у Італіі, для стварэння праекта (будзе выстаўка альбо нават асобная экспазіцыя ў залах палаца), прысвечанага Лявону Уладзіславу Радзівілу. Гісторыя гэтага чалавека, на жаль, недастаткова даследавана.

**— Як супрацоўнічаеце з іншымі музеямі?**

— У запаведніку прайшоў шэраг выставак з удзелам беларускіх, літоўскіх, расійскіх музеяў: «Надзея. Вера. Уваскрэсенне» — Музей Рокішскага краю, «Вандраванне ў часе» — Музей гадзіннікаў г. Клайпеда, Гомельскі палацава-паркавы ансамбль, выстаўка мікрамініяцюр — Музей «Рускі Ляўша» Міжнароднай Гільдыі Майстроў г. Санкт-Пецярбурга, «Беларусь сакральная» — Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і шмат іншых. Наша супрацоўніцтва звязана з доўгатэрміновым дэпазітам прадметаў з Нацыянальнага мастацкага музея, Нацыянальнага гістарычнага музея, Замкавага комплексу «Мір».

**— Ці можаце назваць лепшую выстаўку 2013 года, якая ладзілася ў музеі?**

— Летась прадстаўлялі 14 экспазіцый, і кожная з іх была па-свойму цікавая. Асобнай увагі заслугоўвае выстаўка спальнага гарнітура, які належаў Радзівілам, — «L'ensemble». Гэтая мэбля — мабыць, адзін з найважнейшых набыткаў музея за апошні час. І хай гарнітур паходзіць не з мэблі, што належала асноўнай лініі Радзівілаў, усё роўна гэта вялікая падзея не толькі для нас, але і, як мне здаецца, для краіны ўвогуле.

**— Вы рэалізавалі шмат цікавых праектаў. Што яшчэ чакаць вашым наведвальнікам?**

— Паспяхова прайшлі выстаўкі міжнароднага фармату пры супрацоўніцтве з музеямі г. Санкт-Пецярбурга. Вялікую цікавасць выклікала выстаўка мікрамініяцюр Уладзіміра Аніскіна «Рускі Ляўша», а таксама экспазіцыя «Жывапіс, графіка, скульптура», якую мы прадстаўлялі сумесна з Таварыствам перасоўных выставак XXI стагоддзя. Да канца года госці музея змогуць убачыць выстаўку прадметаў беларускага сакральнага мастацтва і экспазіцыю, прысвечаную 100-годдзю пачатку Першай сусветнай вайны.

**— Ці будзе ўдасканальвацца стацыянарная музейная экспазіцыя?**

— Дзякуючы набыццю новых экспанатаў яна ўжо мяняецца. У планах — стварэнне новых інтэрактыўных экспазіцый у падземнай частцы палаца і на фартыфікацыйных пляцоўках.

**— У 2012 — 2013 гадах у Нацыянальным цэнтры інтэлектуальнай уласнасці музей-запаведнік зарэгістраваў шэраг таварных знакаў. З якой мэтай?**

— Таварны знак — гэта сучасны інструмент рэгулявання рынку. Рэгістрацыя дае магчымасць ідэнтыфікаваць вытворцу прадукцыі або паслуг, атрымліваць ліцэнзійныя адлічэнні ад выкарыстання таварнага знака трэцімі асобамі, уносіць правы на таварны знак у статутны фонд створаных арганізацый, прад'яўляць прэтэнзіі нядобрасумленным канкурэнтам і інш. Мы зарэгістравалі і карыстаемся 8 таварнымі знакамі.

**— Вядома, што ў музеі-запаведніку ўпершыню ў краіне ўведзена паслуга камерцыйнай акрэдытацыі пазаштатных экскурсаводаў. Як ацэньваеце першыя вынікі?**

— Пакуль казаць яшчэ рана. Прааналізаваць сітуацыю зможам толькі пасля заканчэння турыстычнага сезона — у лістападзе. Варта адзначыць, што гэта агульнасусветная практыка, якая існуе ў шматлікіх музеях. Неабходнасць у распрацоўцы і ўводзе такой паслугі паўстала з-за высокай папулярнасці Палацавага ансамбля ў турыстаў. Акрэдытацыю плануем праводзіць два разы ў год. Мы з задавальненнем прымаем новыя прапановы па павышэнні ўзроўню прыёму турыстаў.

**— Сяргей Міхайлавіч, пасаду дырэктара музея-запаведніка «Нясвіж» вы займаеце ўжо не першы год. За гэты час вывучылі ўсе асаблівасці і нюансы дзейнасці ўстановы. Што плануеце змяніць, палепшыць?**

— Асноўнай задачай застаецца рэалізацыя місіі запаведніка — стварэнне ў Нясвіжы культурнага сатэліта сталічнага Мінска. На гэта нацэлены ўсе перспектыўныя планы: забудова тэрыторыі былога касцёла езуітаў з узнаўленнем калегіума, стварэнне на гэтай пляцоўцы музейнага рэстарана з відам на замак. Сёння ўжо зроблена перадпраектная прапанова, ідзе пошук спонсараў. У планах — адкрыццё ў горадзе новых музеяў і аб'ектаў турыстычнай інфраструктуры.

**— Ці хапае часу займацца навуковай дзейнасцю?**

— Мая кніга «Базыльяне» была выдадзена ў 2011 годзе. Гэта навуковая манаграфія па тэме дысертацыі, напісанай падчас вучобы ў Люблінскім каталіцкім універсітэце. Сфера інтарэсаў даволі разнастайная: гісторыя роду Радзівілаў, старадаўнія сядзібы Беларусі, Другая сусветная вайна. Для працы ёсць шмат архіўных матэрыялаў — патрэбен толькі вольны час, а яго, як заўсёды, бракуе.

**— Што самае галоўнае ў музеі з пункту гледжання кіраўніка?**

— Людзі. Вельмі няпроста стварыць калектыў аднадумцаў.

**— Ці можаце назваць самую яркую падзею, якая адбылася з вамі за час працы ў музеі-запаведніку?**

— Безумоўна, гэта адкрыццё Палацавага ансамбля з удзелам Прэзідэнта нашай краіны.

**Кацярына ХАВАНСКАЯ,**
**Раіса МАРЧУК**

Кніжны свет
2 ліпеня 2014 г.

# Вучаць мужнасці

**По ўсёй краіне працягваецца рэспубліканская акцыя «Лета з добрай кнігай», заснаваная Міністэрствам інфармацыі, Саюзам пісьменнікаў Беларусі, «Белкнігай», Выдавецкім домам «Звязда» і выканаўчымі камітэтамі рэгіёнаў краіны. Днямі яна прайшла ў адукацыйна-аздараўленчым цэнтры «Лідар».**




*Фота Любові Бяляевай*

Сярод тых, хто актыўна спрычыніўся да работы са школьніцтвам падчас канікул, — і Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. На сустрэчу з юнымі чытачамі прыехалі паэты Рагнед Малахоўскі, Таццяна Атрошанка, публіцыст Алена Стэльмах.

«Лідар» — не проста лагер адпачынку, а ўнікальны адукацыйны і выхаваўчы праект Мінскага гарвыканкама. Летам тут працуе чатыры змены, у час якіх рэалізуюцца самыя розныя праекты, скіраваныя на развіццё ў дзяцей цікаўнасці да спорту, здаровага ладу жыцця, грамадзянскай актыўнасці, авалодвання педагагічным і культурна-асветніцкім досведам. Таму невыпадкова арганізатары акцыі «Лета з добрай кнігай» — прадстаўнікі Міністэрства інфармацыі, «Белкнігі» і выдавецкай сферы, пісьменнікі — прыехалі менавіта ў «Лідар», які месціцца ў маляўнічай лясной зоне, непадалёку ад Мінска, у самы пярэдадзень 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Да ўвагі юных чытачоў, арганізатараў педагагічнай і выхаваўчай работы Мінінфарм і Выдавецкі дом «Звязда» разгарнулі кніжную выстаўку.

Сустрэчу з юнымі чытачамі, у падарунак якім выдаўцы, дарэчы, прывезлі і камплект кніг-навінак, прысвечаных тэме Вялікай Айчыннай вайны, адкрыў ветэран Уладзімір Пятровіч Галаўнюк. Гвардыі падпалкоўнік у адстаўцы, ён прайшоў шматлікімі франтавымі дарогамі. Пра гэта сведчаць узнагароды: ордэны Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны I і II ступеней, медаль «За баявыя заслугі»… Уладзімір Пятровіч ваяваў у Сталінградзе, на Курскай дузе, вызваляў Беларусь, паспеў паўдзельнічаць і ў вайне з японцамі ў Маньчжурыі. Тройчы паранены. Адзін асколак і цяпер носіць пад грудзьмі. Але не толькі да ўласнай памяці пра вайну звяртаўся франтавік, выступаючы перад моладдзю. Ён распавёў, што значылі для яго веды, кніга, якіх герояў мастацкіх твораў захавала яго свядомасць.



*Фота Любові Бяляевай*

*Ветэрану Вялікай Айчыннай вайны Уладзіміру Галаўнюку ёсць што распавесці дзецям.*

Вітаючы хлопчыкаў і дзяўчынак, якія сабраліся ў «Лідары», міністр інфармацыі Лілія Ананіч распавяла пра тое, што робіцца ў краіне па захаванні гістарычнай памяці. Назвала кнігі, якія прыйшлі да чытача ў апошні час і прысвечаны Вялікай Айчыннай: «Партызанская зброя», «Вечны агонь Перамогі», «Обаль» Алеся Савіцкага, «Генерал Корж. Невядомыя старонкі» Мікалая Смірнова, «Вайна — самы страшны грэх» Таццяны Падаляк, «Пеўчыя 1941-га года» Георгія Марчука… Пад вокладкай кожнай з іх — не толькі інфармацыя пра герояў і подзвігі, у мастацкіх, публіцыстычных адкрыццях аўтараў пакуты і трагедыі, мужнасць і гераізм нашых папярэднікаў. І пра гэта нельга забывацца. Інакш наша краіна, усе мы станем шматкроць беднейшыя.

— Калі азірнуцца вакол, заўважаеш, якая напружаная сітуацыя ва ўсім свеце, у нашых суседзяў, — падзяліўся сваімі развагамі на сустрэчы ў «Лідары» намеснік старшыні Мінскага гарвыканкама Ігар Карпенка. — Лічу, што гэта адбываецца ў многім і таму, што шмат хто забыўся на досвед Вялікай Айчыннай вайны. Нядаўна мы адкрывалі помнік у Трасцянцы, столькі ўсяго трагедыйнага было вернута з забыцця… Ці стане гэта напамінам пра ўрокі Другой сусветнай вайны для ўсіх краін Еўропы?.. Адказ на пытанне залежыць ад няпростых працэсаў выхавання грамадства… Прыемна, што кніга і юнага чытача прымушае задумацца пра сур'ёзныя, знакавыя ў выхаванні чалавека і грамадства рэчы. Створаны зусім нядаўна, адукацыйна-аздараўленчы цэнтр збірае крэатыўнае, скіраванае да актыўнай грамадскай дзейнасці школьніцтва. І калі тая ці іншая кніга западзе ў душы і сэрцы, стане часткай іх свядомасці, можна смела разлічваць, што ў той кнігі ў нашай краіне ёсць будучыня. Мне здаецца, што менавіта «Лідар» мог бы стаць пляцоўкай для дзейснай творчай лабараторыі юных журналістаў, паэтаў і празаікаў. Досвед журналісцкай, літаратурнай творчасці — хіба гэта не важна для людзей з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй? Спадзяюся, што з увагай да такой пастаноўкі пытання паставяцца і ў Саюзе пісьменнікаў краіны, і ў Інстытуце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Найперш — у выданнях дзіцячых і маладзёжных. Спадзяёмся на актыўнасць у стасунках са школьнікамі ў «Лідары» і часопісаў «Маладосць», «Бярозка», газеты «Чырвонка. Чырвоная змена»…

Акцыя «Лета з добрай кнігай» працягваецца. У Мінску і Мінскай вобласці, у іншых рэгіёнах краіны. Пісьменнікі часта сустракаюцца з юнымі чытачамі. А ў бібліятэкі прыходзяць новыя выданні. Досвед мінчан у пашырэнні прасторы чытання, спадзяёмся, будзе заўважаны і калегамі-літаратарамі на Віцебшчыне, Берасцейшчыне, Магілёўшчыне ды ў іншых кутках Беларусі.

**Сяргей ЗАЛАМАЙ**

# Прывітанне з Беларусі

**Па ініцыятыве Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь у ЗША праходзіць прэзентацыя аўтарскага праекта лаўрэата Прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» калекцыянера Уладзіміра Ліхадзедава.**

У межах урачыстага сходу, прысвечанага 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне, у Нью-Ёрку адбылася прэзентацыя альбома «Сінагогі» — першага ў серыі філакартычных альбомаў з цыкла «У пошуках страчанага». У гэты ж дзень калекцыянер пазнаёміў членаў абшчыны крымскіх татар у ЗША з альбомам «Беларусь і мусульманскі свет». А яшчэ ў сацыяльна-культурным цэнтры ў Балтымары Уладзімір Ліхадзедаў расказаў пра сам праект і шматгадовую працу над ім на старонках газет «СБ. Беларусь сегодня», «Голас Радзімы», «Звязда», «Літаратура і мастацтва», часопісаў «Беларусь», «Маладосць».

Прайшлі і іншыя мерапрыемствы, якія ў ЗША арганізавала Пасольства Беларусі. Сярод іх — прэзентацыя ў Бібліятэцы Кангрэса ЗША нядаўна выпушчанага Выдавецкім домам «Звязда» альбома са старымі паштоўкамі «Падарожжа ў часе». Дарэчы, тут, у славутай скарбніцы, захоўваюцца і іншыя выданні «Звязды», прысвечаныя старым паштоўкам: «У пошуках страчанага», «Знічкі Айчыны».

Гэта ўжо не першая паездка беларускага калекцыянера на амерыканскі кантынент. Старая паштоўка з дапамогай вядомага ў Беларусі філакартыста стала добрым сродкам народнай дыпламатыі паміж Беларуссю і ЗША. З дапамогай уражлівай, багатай калекцыі ўсяго аднаго чалавека ладзіцца сапраўдны мост дружбы і ўзаемапаразумення. Розным культурам і розным менталітэтам цікавыя памяткі даўніны дазваляюць узнаўляць шмат што з блізкага і агульнага. Падчас папярэдняй паездкі ў ЗША Уладзімір Ліхадзедаў прэзентаваў сабраныя ім матэрыялы, якія распавядаюць пра «амерыканскую адысею» Тадэвуша Касцюшкі.

**Мікола БЕРЛЕЖ**



### Нататкі рамантычнага маркетолага



**Кацярына СІМАН**

# Каб сэрца скаланулася

Сёння, каб хутчэй штосьці прадаць, гандляр абавязкова павесіць цэтлік «унікальны». Ці нават «эксклюзіўны»! З першым азначэннем я гатовая мірыцца, бо менавіта гэтае слова выклікае трывалую асацыяцыю з антыкварнымі кнігамі. А ці не задумваліся вы, што такімі ж рэдкімі могуць быць і тэмы апавяданняў, аповесцей, раманаў? Прыклад знайсці зусім не складана. Гэта кнігі пра вайну.

Можна вывучыць жаночую псіхалогію па падручніках, падмацаваць практыкай задушэўных размоў на кухні і ў выніку стварыць неблагі меладраматычны сюжэт. Калі ад прыроды вы нястомны балбатун, то цалкам верагодна можаце прэтэндаваць на лаўры Зошчанкі. Але ёсць гісторыі, якія разарвуць душу ў цішыні менавіта тады, калі іх распавядаюць відавочцы, сведкі. З гадамі такіх людзей усё менш. І таму ўспаміны пра Вялікую Айчынную вайну становяцца каштоўнымі бурштынавымі слязьмі на параненай кары «дрэва» нашага народа.

У рамане Джона Бойна «Хлопчык у паласатай піжаме» ёсць такія словы: «Вайна не падыходзіць у якасці тэмы для гутаркі. Праўда, баюся, вельмі хутка іншай тэмы ў нас і не будзе». Я сказала б інакш: як ні дзіўна, але вельмі хутка ніякая іншая тэма не здолее абудзіць у нас чалавечнасць. Сучаснае грамадства настолькі загразла ў сваім абсалютным дабрабыце, што пахавала пад ім простыя ісціны і самыя звычайныя радасці.

Прыгадайце, колькі кніжных старонак, прысвечаных вайне, мы ўсе прачыталі ў дзяцінстве: «У спісах не значыцца», «Назаўсёды — дзевятнаццацігадовыя», «Альпійская балада», «А зоры тут ціхія…», «Чацвёртая вышыня»… І зусім не з кожнай старонкі нам чуўся гром кананад на Курскай дузе. Бо не для гэтага Канстанцін Сіманаў пісаў сваю каласальную эпапею «Жывыя і мёртвыя», а Міхаіл Шолахаў — раман «Яны змагаліся за Радзіму», каб проста перадаць гістарычныя факты. Зусім не.

Што адрознівае ваенныя творы ад любых іншых? Гісторыя ў іх выступае хутчэй у якасці фону. Не спрачаюся — вельмі жудаснага і крывавага. Але менавіта ў такіх умовах раскрываецца чалавечая прырода. Часам — як нарыў, з якога, нібы гной, выходзяць подласць, здрада, баязлівасць. Сутнасць такой літаратуры менавіта ў абуджэнні людскога, у праверцы душы на здольнасць скаланацца. Ніхто не будзе спрачацца, што непазбыўныя сляды на сэрцы пакінулі менавіта чысціня і шчырасць твораў Васільева, Астаф'ева, Бондарава, Адамовіча, Быкава, Мележа.

Мы бачым людзей, якія не марылі пра лаўры славы. Для іх слова «Радзіма» не патрабавала тлумачэнняў, яно было ў крыві. А цяпер іх унукі пасміхаюцца, калі чуюць пра патрыятызм. Ці не горка бачыць гэта тым, хто яшчэ памятае вайну — страшную, бесчалавечную, якая ламала лёсы з абодвух бакоў поля бою.

У рамане «Выбар Сафі» Уільям Стайран літаральна адным радком падводзіць рысу ў спрэчках пра вінаватых. «Пытанне: «Скажы мне, дзе ў Аўшвіцы быў Бог?» І адказ: «А дзе быў чалавек?». Бо не хто іншы, як людзі, і распачаў гэтую крывавую бойню, якая доўжылася з 1 верасня 1939 года… Можна колькі заўгодна разважаць пра тое, што не ўсе немцы былі фашыстамі, як і не ўсе савецкія людзі — героямі. Гэта прыватнасці. Галоўнае ў тым, што гэты страшны ўрок гісторыі сапраўды засвоены кепска. Людзі сталі настолькі шчаслівымі, што забыліся пра пакуты і жахі, якія перажылі іх дзяды. Дык, можа, кнігі выратуюць свет ад бяды? Мы, нашчадкі, не можам напісаць такіх твораў. Бо не бачылі. Не дай бог пабачыць зноў.

### Нататкі чытача

# На цаліну… з падводнай лодкі

Леанід Левановіч трэці дзясятак гадоў жыве ў Вілейскім раёне. Ён лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў, аўтар «Прыдняпроўскай хронікі», якая складаецца з шасці раманаў. Апошнім часам у серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» выдаў кнігу «Ларыса, альбо Каханне аўтамабіліста». Яна пабачыла свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці». Кніга ўключае тры творы, і кожны з іх — адкрыццё для чытача.

Рамантычная гісторыя «Якар надзеі» — рэдкі для беларускай літаратуры твор пра падводнікаў, а яшчэ пра тое, як нараджаецца, мацнее каханне, паступова становіцца глыбокім пачуццём. Гэты шлях праходзіць юначае сяброўства ліставаннем паміж Галяй і Алёшам.

Галя, папрацаваўшы піянерважатай, становіцца настаўніцай пачатковых класаў. Ёй, студэнтцы-завочніцы, школа даверыла першакласнікаў. Гэты давер Галя не проста імкнецца апраўдаць, яна па-сапраўднаму палюбіла сваіх вучняў. З лістоў да Аляксея бачна, што дзяўчына ўкладае ў працу душу і сэрца. Аляксей падтрымлівае Галю, цікавіцца яе настаўніцкімі абавязкамі і апісвае сваю службу: ён вучыцца на акустыка, служыць на Паўночным флоце.

Кожны ліст маладых людзей — маленькі мастацкі твор, у якім заключаныя думкі пра жыццё, напрыклад, пра ролю жанчыны ў сям'і. Аповесць «Якар надзеі» ў рэшце рэшт вучыць любіць радзіму, жонку, бацькоў, падказвае, як знайсці дарогу ў жыцці і нават здзейсніць гераічны ўчынак.

Другі твор — «Ларыса, альбо Каханне аўтамабіліста» — Л. Левановіч вызначыў як эратычна-філасофскую аповесць. Аўтар распавядае пра лёсы трох герояў, якія склаліся ў класічны трохкутнік. Выкладчык педінстытута Павел Ісачонак доўгі час вагаецца паміж двума кандыдатурамі і ўрэшце абірае дамавітую і сціплую Ларысу. Усё гэта адбываецца на фоне дзевяностых з іх «перабудовамі», праблемамі і трывогамі. Так, галоўны герой у свой час пацярпеў за захапленне беларускай мовай і гісторыяй. Паказальны таксама эпізод, калі Данута (адна з абранніц героя), якая кіруе крамай, прадае чужыя пайкі з харчам Ісачонку, бо прылаўкі ў крамах пустыя, а яму трэба справіць угодкі па жонцы і вяселле сына.

Расповед у дакументальнай аповесці «Зямля і людзі» вядзецца ад першай асобы, прычым, герой — сам аўтар. Твор уключае ў сябе дзённікі і падарожныя нататкі. Амаль дваццаць гадоў аўтар збіраў матэрыялы для твора, а падарожжы на цаліну




здзяйсняў чатыры разы. Падчас першай вандроўкі (1964 г.) ён пачаў весці дзённік, перадусім цікавячыся жыццём беларусаў на цаліне, і, як мы бачым, далёка не ўсе яны вытрымалі выпрабаванні. Творца часта робіць адступленні, распавядаючы пра лёсы асобных людзей. Аповесці напісаны мовай, якую хочацца назваць цёплай і сакавітай. Яна аздабляецца народнымі выказваннямі, дыялектнымі словамі. Лёгка ўяўляюцца пейзажы, якія апісвае пісьменнік, і людзі, пра якіх ён распавядае, запамінаюцца надоўга. Яны вельмі розныя і разам з тым вельмі падобныя ў імкненні жыць не толькі дзеля ўласнага прыбытку, але і дзеля будучыні.

**Роза ШЭРАЯ**

# «Народная асвета» прапануе

У Ждановічах няма не толькі Дома культуры, але і звычайнага сельскага клуба. І таму бібліятэка па сутнасці з'яўляецца асноўнай культурнай установай для мясцовых жыхароў. Тут можна ўзяць удзел у шматлікіх мерапрыемствах. Асабліва падабаюцца заўзятым чытачам сустрэчы з пісьменнікамі, тым больш што Мінск побач і даехаць сюды для сталічных літаратараў не праблема.

Сапраўднае сяброўства ў ждановіцкіх бібліятэкараў завязалася ў апошнія гады з выдавецтвам «Народная асвета» — выдаўцы неаднойчы знаёмілі мясцовых чытачоў са сваёй кніжнай прадукцыяй. Вось і ў межах акцыі «Лета — з добрай кнігай» не абышлі іх увагай. Гэтым разам яны з Анатолем Зэкавым прэзентавалі школьнікам і выхаванцам дзіцячага сада выдадзеную «народнаасветаўцамі» ягоную кнігу казак і вершаў «Кенгуру ці кенгура?» і складзены ім паэтычны зборнік матэматычных загадак-задачак беларускіх пісьменнікаў «Колькі дзе чаго». Зрэшты, кожны юны ўдзельнік сустрэчы атрымаў магчымасць знайсці адказ на пытанне, вынесенае ў назву апошняй кнігі, калі госць знаёміў іх з творамі, змешчанымі ў зборніку.

**Сяргей КРЫВІЧОЎ**

### Прэзентацыя

# Памяць як сувязны

Ягады шыпшыны, да таго спелыя, што чырванаваты колер ажно адсвечваецца лёгкімі блікамі, вельмі да месца на вокладцы кнігі Міколы Маляўкі, бо яна называецца «Беражыце Шыпшыну». Знакаміты паэт так пасвойму асэнсоўвае тое, што ў 1925 годзе выказаў у адным са сваіх твораў Уладзімір Дубоўка:

*О Беларусь, мая шыпшына,*
*зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*чарнобылем не зарасцеш.*

Гэтыя радкі М. Маляўка ўзяў эпіграфам да верша, які і падказаў назву яго новай кнізе. Як і ягоны папярэднік, паэт параўноўвае нашу Айчыну з Шыпшынай. Больш за тое, да такога параўнання ставіцца з пашанай, таму і піша слова «Шыпшына» з вялікай літары. Прамаўляе з упэўненасцю, што з'явіцца новы паэт, які таксама будзе апяваць яе. Дый яшчэ дае наказ тым, каму працягваць добрую справу на зямлі:

*Беражыце Шыпшыну, нашчадкі,*
*Беражыце на шчасце,*
*Беражыце як след!*

Кніга «Беражыце Шыпшыну» пабачыла свет у серыі «Дзеці вайны», якую ў 2010 годзе заснавала выдавецтва «Чатыры чвэрці». Пакрысе ўтварылася ўжо цэлая бібліятэчка твораў пісьменнікаў, якія ў маленстве зведалі, наколькі страшная ваенная навала. З'яўленне паэтычнай споведзі М. Маляўкі ў серыі «Дзеці вайны» тым больш невыпадковае: ён равеснік Вялікай Айчыннай. Пра гэта ў той ці іншай ступені паэт згадвае ў некаторых сваіх творах. Сярод іх і верш «Вайны не помню». Яно так, ды толькі…

*Вайны не помню — кадрыкі адны,*
*Бо нарадзіўся ў сорак першым годзе,*
*Калі вайна грымела ўжо на ўсходзе.*
*Я перажыў вайну пасля вайны:*
*Галечу ў хаце, холад ледзяны,*
*А цёплым летам, пры грыбным абходзе,*
*Снарады грозныя ў зямлі знаходзіў, —*
*І нас, дзяцей, калечылі яны.*

Шчыра, ад душы сказана. Як на споведзі. І перад самім сабой, дый перад часам таксама. Таму і праўдзіва, пераканаўча. Але М. Маляўка — з тых паэтаў, якія ўмеюць казаць так, каб словы гучалі шчыра, па-сапраўднаму. Гэты верш — не выключэнне:

*Змагаўся бацька мой у пекле самым*
*За родны край і за мяне таксама.*
*Хлапчук малы, я ваяваць не мог,*
*Ды стаў яго жыццём, яго трывогай, —*
*І там, на фронце, бацьку я бярог,*
*Каб ён дамоў вярнуўся з Перамогай.*

Вайна падае пра сябе знак і ў шмат якіх іншых творах кнігі. Чутно водгулле даўніх, але такіх помных падзей, усплываюць лёсы і тых, хто прыйшоў дадому пераможцамі, і тых, хто загінуў. Зразумела, ваенный тэматыкай кніга не абмяжоўваецца. Дзіця вайны М. Маляўка — наш сучаснік, ён перажывае за тое, што адбываецца ў свеце. З замілаваннем піша пра сваю родную Стаўбцоўшчыну. Прынамсі, у вершы «Раён Стаўбцоўскі — палявы, лясны», дакладна перадае сувязь пакаленняў: «Сышліся на паверцы тут яны, / Найперш героі працы і вайны. / Зямлёй адной і лёсам парадзнёныя, / Стаяць асобна, строяцца ў калоны, — / Яднае памяць іх, як сувязны».

Увогуле, памяць, як своеасаблівы сувязны, злучае ў кнізе «Беражыце Шыпшыну» дзень учарашні і сённяшні, а лірычны герой М. Маляўкі паўстае чалавекам, што ўмее радавацца жыццю, але памятае, якой вялікай цаной заваяваны на зямлі мір і спакой.

**Валянцін РОДЧАНКА**



# Беларускі след «шасцідзясятніка»

**Днямі споўнілася 20 год з дня смерці знакамітага паэта Роберта Раждзественскага. А ці ведалі вы, што продкі пісьменніка паходзілі з беларускіх земляў?**

Гістарычным кантэкстам, што сфарміраваў тэрмін «шасцідзясятнікі», былі гады эпохі хрушчоўскай «адлігі». Найбольш плённа і яскрава літаратары працавалі падчас існавання папулярнага часопіса «Новый мир», галоўным рэдактарам якога быў Аляксандр Твардоўскі. Выданне цвёрда стаяла на пазіцыях лібералізму ў ідэалогіі і мастацтве, таму фактычна з'яўлялася апазіцыйным. Пасля зняцця М. Хрушчова (1964) для «Нового мира» і Твардоўскага з боку Галоўліта і Саюза пісьменнікаў СССР, па словах Роберта Раждзественскага, наступіла «нялётнае надвор'е»…

У савецкай літаратуры канца 50-х — пачатку 60-х гадоў узнікла так званая эстрадная паэзія — паэзія вечароў у дамах культуры і канцэртных пляцовак. Імёны Б. Ахмадулінай, Б. Акуджавы, А. Вазнясенскага, Я. Еўтушэнкі і Р. Раждзественскага былі ва ўсіх на слыху. Гэтая «выбітная пяцёрка» збірала на сваіх выступленнях шматтысячныя залы і стадыёны. Наклады іх паэтычных зборнікаў вылічаліся сотнямі тысяч асобнікаў, апошнія, дарэчы, вокамгненна змяталіся з прылаўкаў. Чытачоў падкуплялі грамадзянскі і маральны пафас гэтых паэтаў, з ліку якіх і Роберт Раждзественскі.

Ён нарадзіўся ў сяле Косіха Алтайскага краю. Бацькі — нашчадкі ссыльных паўстанцаў з Гродзенскай губерні. Бацька, Станіслаў Нікадзімавіч Пяткевіч, быў начальнікам Касіхінскага райаддзела АДПУ-НКУС (загінуў напрыканцы Вялікай Айчыннай вайны ў жорсткім баі на тэрыторыі Латвіі). Маці, Вера Паўлаўна (памерла ў 2001 г.), працавала дырэктарам Касіхінскай пачатковай школы.

У 1934-м сям'я Пяткевічаў пераехала ў Омск, дзе Вера Паўлаўна скончыла медыцынскі інстытут. Калі пачалася вайна, маці прызвалі ў войска ваенурачом, а сын застаўся з бабуляй. 8 ліпеня 1941 г. у газеце «Омская правда» быў апублікаваны першы верш дзевяцігадовага Роберта Пяткевіча «С винтовкой мой папа уходит в поход...». Свой першы ганарар юны паэт ахвяраваў у Фонд абароны. Тэма Вялікай Айчыннай вайны стала адной з асноўных у творчасці пісьменніка.

Пасля Перамогі над Германіяй Вера Паўлаўна выходзіць замуж за аднапалчаніна, афіцэра Івана Раждзественскага, які ўсынавіў Роберта. Юнак цягам 1950 года вучыцца на гісторыка-філалагічным аддзяленні Петразаводскага дзяржаўнага ўніверсітэта, а ў 1951-м, ужо з другой спробы, паступае ў Літінстытут. Падчас вучобы Роберт выпусціў у свет зборнікі вершаў «Флаги весны» (1955) і «Испытание» (1956), паэму «Моя любовь» (1955). Дарэчы, у сценах Літінстытута паэт знайшоў і спадарожніцу жыцця: яго жонка, Ала Кірэева, вучылася на аддзяленні літаратурнай крытыкі, была добрай мастачкай. Разам яны пражылі 41 год, нарадзілі дзвюх дачок.

У 1955 годзе Роберт Раждзественскі падрыхтаваў свой першы зборнік вершаў для серыі «Первая книга поэта». Ёсць сведчанне: галоўны рэдактар так зачытаўся вершамі, што выклікаў Роберта да сябе. «Вердыкт» быў такім: «Вы не вершаплёт, вы — паэт, і паэт сапраўдны. Упэўнены, гадоў праз дзесяць вас будзе ведаць уся краіна. Але паслухайце маю параду, дакладней пытанне: што гучыць лепш — паэт Роберт Пяткевіч ці паэт Роберт Раждзественскі?» Вось так у гісторыю сусветнай паэзіі ўвайшоў Роберт Раждзественскі.

У год заканчэння Літінстытута адбыўся першы творчы вечар паэта ў Тэатры эстрады. У 1959-м паэма Р. Раждзественскага «Пятнадцать минут до старта» атрымала прэмію міжнароднага конкурсу радыёспектакляў. Праз год ён стварае паэму «Реквием». Распавядаючы ў ёй пра загінуўшых на вайне, паэт стварыў сапраўдную оду жыццю…

У вершах Р. Раждзественскага — біяграфія цэлага пакалення, гісторыя часу сур'ёзных грамадскіх змен. З гадамі адыходзячы ад уласцівых вершам рытмічнай структуры дэкларатыўнасці і разнастайнасці, Раждзественскі стварыў шмат тэкстаў папулярных песень, у тым ліку да спектакляў і аперэт «Голы кароль», «Цётухна Чарлі», «Падарожжа Нільса з дзікімі гусямі».

На яго вершы напісана звыш сотні папулярных песень. У розныя гады Роберт Раждзественскі супрацоўнічаў больш як з 50 кампазітарамі: яго суаўтарамі былі Аскар Фельцман, Марк Фрадкін, Арно Бабаджанян, Мікаэл Тарывердзіеў, Георгій Мавсесян, Давід Тухманаў, Ігар Лучанок, Аляксандра Пахмутава і інш.

У сярэдзіне 1980-х у паэта ўзніклі праблемы са здароўем. Частую страту прытомнасці ўрачы палічылі сімптомам хваробы сасудаў. Сапраўдны дыягназ — пухліна мозгу. Хваробу паспяхова лячылі ў Францыі, але стала адмаўляць сэрца... Роберт Раждзественскі памёр ад інфаркту 19 жніўня 1994 г. у бальніцы Скліфасоўскага ў Маскве.

Ён заклікаў быць людзьмі, а не элементамі бяздушнай сістэмы. З аднаго боку, афіцыйны геній эпохі, з другога — яе суровы крытык.

**Валерый ЯРМОЛЕНКА, Галіна ФАТЫХАВА**

## *Год гасціннасці*

# Дыялог аднадумцаў

**Напрыканцы чэрвеня ў дэстынацыі «Муховецька Кумора» (Кобрынскі раён) адбылося па-сапраўднаму крэатыўнае мерапрыемства — «Творчая лабараторыя зялёнага турызму».**

Ладзілася яно ў межах інфакампаніі «Простыя Рэчы», якую ажыццяўляе Беларускае грамадскае таварыства «Адпачынак у вёсцы» ў партнёрстве з распрацоўшчыкамі праекта USAID «Мясцовае прадпрымальніцтва і эканамічнае развіццё». Праект рэалізуецца згодна з праграмай развіцця ААН пры падтрымцы Міністэрства спорту і турызму Беларусі.

У Год гасціннасці аграэкатурызм, які ўвасабляе гасціннасць беларусаў, з'яўляецца прыярытэтным для нашай краіны. На Кобрыншчыне былі абмеркаваны новыя крэатыўныя падыходы да выкарыстання прыроднай і культурнай спадчыны, аблічча айчынных «зялёных сядзіб», праблемы прасоўвання адпаведных маршрутаў, незвычайныя крэатыўныя турыстычныя прадукты і інш.

Удзельнікі «Творчай лабараторыі» змаглі пазнаёміцца з інавацыйным турыстычным прадуктам — квестам «Казачнае Палессе», узяць удзел у майстар-класах па экалагічным будаўніцтве, арганізацыі «зялёных» лагераў і фэстаў, убачыць на практыцы, як рэалізуюцца многія незвычайныя ідэі.

— Наша «лабараторыя» сабрала пад сваім дахам прадстаўнікоў розных сфер, далучаных да аграэкатурызму, — гаспадароў сядзіб, фермераў, каардынатараў турыстычных дэстынацый, прадстаўнікоў міністэрстваў і мясцовых улад, прыродаахоўных тэрыторый і лясніцтваў, — зазначыла старшыня праўлення БГТ «Адпачынак у вёсцы» Валерыя Кліцунова. — Кожны мог выказаць свае меркаванні і паўдзельнічаць у дыскусіі.

**Раіса МАРЧУК**

# Суседзяў шануюць!

**Два гады таму мне пашчасціла пабываць на Дні беларускага пісьменства ў Глыбокім. Асабліва запомніўся тракт нацыянальных культур з арыгінальнымі падворкамі. Менавіта тады ўзнікла ідэя аб правядзенні падобнага фэсту ў сценах нашай гімназіі з выкарыстаннем экспанатаў з народнага гісторыка-краязнаўчага музея «Невычэрпная крыніца гісторыі».**

Захацелася больш даведацца пра змешаныя сем'і, карані аднакласнікаў, памятныя мясціны краін, дзе яны нарадзіліся ці жылі іх бацькі, нацыянальныя абрады, стравы. У выніку вырашылі даследаваць культуру ажно сямі народаў, якія адначасова ўзбагачаюць і беларускую, а завяршыць даследаванні правядзеннем Тыдня нацыянальных культур.

Яшчэ да вайны 25-я сярэдняя школа імя А. Чарвякова была шматнацыянальнай: побач вучыліся беларусы і рускія, яўрэі і палякі. Усе яны моцна сябравалі паміж сабою, ва ўсіх была агульная мара: добра вучыцца, скончыць школу, атрымаць спецыяльнасць. Тут ладзілася шмат розных мерапрыемстваў, якія знаёмілі з культурай і мовай людзей розных нацыянальнасцей. У прыватнасці, вывучалася культура братняй Польшчы, гучалі песні і вершы на польскай мове. Вучні з задавальненнем выконвалі беларускія танцы, якія падабаліся ўсім. Актыўнасцю, калектывізмам, глыбокім веданнем традыцый свайго народа вызначаліся вучні-яўрэі, таму падчас школьных вечароў гучала і іх музыка.

З дапамогай народнага мастака Беларусі Мая Вольфавіча Данцыга (сына настаўніка фізкультуры даваеннай 25-й школы Вольфа Данцыга, унука ўладальніка друкарні, у якой летам 1917 года ўбачыў свет першы нумар газеты «Звязда») вывучаем яўрэйскую культуру. Май Вольфавіч распавёў нам пра выдатнага яўрэйскага мастака Хаіма Суціна, радзіма якога — Смілавічы. Узнікла ідэя напісаць работу пра гэты гарадскі пасёлак, які многім вядомы сваім шматканфесійным і шматнацыянальным каларытам: рэдка дзе яшчэ можна сустрэць побач царкву, касцёл, мячэць. Але большую частку насельніцтва Смілавіч складаюць татары. Нам захацелася больш даведацца пра змешаныя сем'і, іх карані, абрады і побыт. Правялі даследаванне і з гэтай работай выступілі на Мінскай гарадской навукова-практычнай канферэнцыі.

Тыдзень нацыянальных культур завяршыўся багатым кірмашом: кожны клас выстаўляў прысмакі, якія дзеці прыгатавалі самастойна альбо пры дапамозе бацькоў ці настаўнікаў. Гэта не першы фестываль: падобныя мерапрыемствы ў гімназіі праводзяцца штогод.

**Аляксандра БЕЗМЕН**

# Казахскі часопіс — пра Янушкевіча

**На Міншчыне праводзіцца вялікая праца па ўшанаванні памяці Адольфа Янушкевіча, які ў XIX стагоддзі зрабіў неймаверна шмат для народа Казахстана.**

Этнограф, фалькларыст, культуролаг, грамадскі дзеяч, ён пакінуў пасля сябе цікавую гісторыка-публіцыстычную спадчыну. На яе старонках — словы захаплення працалюбівымі, разумнымі казахамі. Цяпер кнігі А. Янушкевіча выходзяць у Казахстане.

А летась на Дзяржыншчыне з удзелам дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзіслава Цыдзіка і Мінскай абласной арганізацыі СПБ Дзяржынскім райвыканкамам, Дзяржынскай раённай бібліятэкай і газетай «Узвышша» былі арганізаваны міжнародныя Койданаўскія краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя 210-годдзю А. Янушкевіча.

Удзел у іх узялі і прадстаўнікі Казахстана. Па выніках паездкі на Міншчыну пісьменнік Хакім Амар надрукаваў у часопісе «Тамыр» вялікі нарыс «Беларуская вышыня». Ёсць у гэтым публіцыстычным матэрыяле і словы пра нашу сучаснасць: «Сёння кожны беларус працуе і стварае дзеля дабрабыту сваёй роднай зямлі. Кожны сваімі дасягненнямі ўзводзіць беларускую вышыню». Дзякуй казахскаму пісьменніку за такое назіранне!

**Сяргей ШЫЧКО**

# Скарбонка жартаў народных

Пра славутыя Аўцюкі — Вялікія і Малыя, — пра іх насельнікаў — каласкоў ды калінак — сказана і напісана ўжо шмат. Усе, каму даводзілася хоць аднойчы наведаць гэты цудоўны палескі край, ніколі не забудуць яго характва, не забудуць і аўцюкоўцаў — сціплых, добразычлівых, вясёлых, дасціпных і мудрых людзей.

З лёгкай рукі пісьменніка Уладзіміра Ліпскага Аўцюкі сталі беларускім Габравам — сінонімам цэнтра народнага гумару і жартаў. І колькі б мы ні чулі, колькі б ні чыталі разнастайных досціпаў пра няўрымслівых палешукоў, усё адно гэта цікава і павучальна.

Свой унёсак у «Аўцюкавіяну» зрабіў і гомельскі пісьменнік-гумарыст Барыс Кавалерчык. Атрымаўшы ў мінулым годзе «Залатога Купідона» за зборнік гумарыстычных твораў, ён яшчэ больш натхніўся і склаў новую кнігу пад назвай «Аўцюкоўцы жартуюць». Героі пісьменніка дасціпна разважаюць пра жыццё, радуюцца яму.

У новай кнізе пісьменніка — некалькі раздзелаў. Сярод іх — «З гумарам у абдымку» (мініяцюры з натуры), «Уздоўж і ўпоперак» (трапныя думкі), «Аўцюкоўцы гавораць», «Аўцюкоўцы раяць...». Усе творы — змястоўныя, вясёлыя і дасціпныя.

Як адзначае сам аўтар у прадмове, «калі слухаеш аўцюкоўцаў, і самому жартаваць хочацца. Мо нешта смешнае пра іх я і сам прыдумаў. Усякае можа быць. Але спадзяюся, што каласкі і калінкі за гэта на мяне не вельмі, а можа, і зусім не пакрыўдзяцца».

Здаецца, пісьменніку пра гэта хваляваўся не варта: ён нікога не пакрыўдзіў, а наадварот, яшчэ раз нагадаў чытачам пра цудоўных людзей.

**Міхась СЛІВА**



# Сяргей Кацьер: «Нельга слепа ісці за аўдыторыяй»

**У беларускім кіно ніколі не наступіць эпоха крызісу, пакуль ёсць людзі, здольныя ствараць душэўныя, мудрыя фільмы, любімыя тымі, хто ведае і шануе вялікае мастацтва. Гран-пры XXIII Міжнароднага славянскага кінафоруму «Залаты Віцязь» атрымала дакументальная стужка беларускага рэжысёра, прадзюсара, тэлевядучага Сяргея Кацьера, якая стала ўнікальнай падзеяй у гісторыі фестывалю. Зрэшты, не меншую цікавасць выклікае яе аўтар: за яго плячыма — 30 гадоў працы ў Белтэлерадыёкампаніі, больш як 700 тэлевізійных праграм, сярод якіх — «Тэлевёрсты», «Каробка перадач», «Кулінарная дыпламатыя», а таксама 20 дакументальных карцін. Сяргей Кацьер выхоўвае ў гледачоў добры густ, распавядаючы ім пра культурныя з'явы і творчых людзей. У галаве майстра — бясконцы запас смелых ідэй, якія жывяцца цікаўнасцю і незгасальнай энергіяй. Дзе рэжысёру шукаць цікавыя тэмы? Як звычайнаму чалавеку выратаваць сваю душу? Суразмоўца адказаў карэспандэнту «ЛіМа» на гэтыя і шмат іншых пытанняў.**

**— Сяргей Галіевіч, якім чынам лёс прывёў вас на тэлебачанне?**

— У юнацтве я нават не ўяўляў, што ёсць такая прафесія — рэжысёр. Хацеў стаць ваенным, абараняць Радзіму, як усе мужчыны ў маёй сям'і, але не прайшоў медкамісію пры паступленні ў вучылішча. Давялося рабіць іншы выбар. Вось так апынуўся ў Яраслаўскім політэхнічным інстытуце, які паспяхова скончыў у 1975 годзе. Думаў, што буду працаваць на вытворчасці лятальных апаратаў і займацца касмічнай электрахіміяй. Лёс зноў распарадзіўся інакш. Мяне размеркавалі на Мінскі матавелазавод. Так і звязаў бы сваё жыццё з тэхнікай, калі б душа не цягнулася да мастацтва. Яшчэ ў Яраслаўлі я ўдзельнічаў у Клубе весёлых і знаходлівых, займаўся ў тэатры студэнцкіх мініяцюр. Наша каманда была адной з лепшых у СССР! Мы шмат гастралявалі, выязджалі са сваімі праграмамі ў Адэсу. Пераехаў у Мінск, праца на заводзе мяне не задавальняла, таму стаў цікавіцца, дзе можна прымяніць свае акцёрскія здольнасці. У выніку прыйшоў у народны тэатр пры трактарным заводзе, дзе і «захварэў» на кінематограф. Будучы чалавекам рашучым, паступіў у Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў на аддзяленне рэжысуры тэлебачання. Жыццё раптам перавярнулася — і вось я ўжо трыццаць гадоў працую ў Белтэлерадыёкампаніі, пра што яшчэ ні разу не пашкадаваў.

**— Раскажыце пра вашу работу «Залаты Віцязь. Мікалай Бурляеў», якая заваявала вышэйшую ўзнагароду славянскага кінафоруму. Як ствараўся фільм?**

— Да кінастужкі, прысвечанай Мікалаю Бурляеву, я ішоў 20 гадоў, з таго часу як упершыню прыехаў на фестываль «Залаты Віцязь» у якасці журналіста і пазнаёміўся з яго ідэйным кіраўніком, незвычайнай душы чалавекам. Гран-пры атрымаў не фільм, а сам Мікалай Бурляеў і разам з ім — наша краіна, якая ў самыя цяжкія для фестывалю перыяды падтрымлівала фэст фінансава і маральна, Белтэлерадыёкампанія, на замову якой была створана гэтая праца, і ў апошнюю чаргу я ў якасці рэжысёра. Падчас стасункаў з Мікалаем Бурляевым я адкрываў новыя грані яго характару. У гэтага чалавека фенаменальная памяць і вялікая прага самаахвярнасці. Ён чытае прозу і паэзію рускіх класікаў — Лермантава, Пушкіна, Чэхава, Цютчава — на памяць, усім сваім жыццём даказваючы: талент павінен служыць не яго ўладальніку, а людзям. Нездарма па яго ініцыятыве з'явіўся «Залаты Віцязь», прычым, у той перыяд, калі ў краіне пачалася перабудова і айчыннае кіно практычна перастала існаваць з прычыны, як многія думалі, непатрэбнасці. Казалі, што савецкія фільмы — нізкапробны ідэалагічны прадукт, што сапраўднае кіно выпускаюць толькі на Захадзе і не важна, што ў ім шмат гвалту і жорсткасці. Мікалай Бурляеў адкрыта і смела, як сапраўдны патрыёт сваёй радзімы, арганізаваў фестываль, які і сёння служыць вялікай мэце — узвышэнню душы чалавека і яго маральных ідэалаў. На працягу многіх гадоў я ўдзельнічаю ў «Залатым Віцязі», для мяне гэта нібы глыток свежага паветра альбо паход у храм.

**— Чым вы кіруецеся пры адборы падзей ці персанажаў для сваіх дакументальных стужак?**

Упэўнены, калі рэжысёр бярэцца за тэму, якая яго моцна цікавіць, фільм абавязкова знойдзе свайго гледача. Слепа ісці за аўдыторыяй нельга. Калі гледачы пэўнага канала аддаюць перавагу спорту, гэта не значыць, што дваццаць чатыры гадзіны ў суткі трэба «круціць» на экране адны спаборніцтвы. Заўсёды ёсць людзі, якія цікавяцца рэчамі, куды больш важнымі за траекторыю палёту мяча на футбольным полі. Менавіта на іх і разлічана мая творчасць.

**— Ці згодныя вы з тым, што дакументальнае кіно з'яўляецца не проста фіксацыяй рэчаіснасці, а яе творчым пераасэнсаваннем?**

— Любы фільм, дакументальны ці ігравы, не мае прамога дачынення да рэальнасці. Кіно — гэта ілюзія, бо яно наскрозь прасякнута суб'ектывізмам аўтара. Нават камеры назірання, прымацаваныя да будынка ў пэўных ракурсах, адлюстроўваюць думкі таго, хто іх усталёўваў, паказваючы зусім розныя бакі жыцця. На адной з іх мы ўбачым дзяцей, якія будуць гуляць у класы, а на другой — мужчын, якія сабраліся каля піўной. У кіно адбываецца тое ж самае, асабліва пры мантажы: маніпуляцыя з'явамі, словамі і ўчынкамі герояў. Кожны рэжысёр бачыць і паказвае свет па-свойму, і гэта абсалютна нармальна.

**— Як ставіцеся да крытыкі?**

— Спакойна, таму што ведаю свае недахопы, але ніколі не крытыкую людзей сам: лічу, што крытыка калечыць, б'е па руках. Рэжысёра трэба хваліць за кожную дробязь, якую ён здолеў зрабіць, хай нават у яго фільме толькі адзін эпізод, варты ўвагі. Няўдачы ў кіно, на жаль, не заўсёды залежаць ад аднаго аўтара. У стварэнні фільма ўдзельнічае цэлая каманда. Калі нешта не атрымалася, паверце, рэжысёр сам зробіць высновы пра свае памылкі. Крытыка не накіруе яго на шлях ісціны, наадварот, канчаткова заб'е надзею і жаданне тварыць.

**— У чым наш кінематограф дабіўся поспехаў, а ў чым адстае ад сусветнага ўзроўню?**

— Рэжысёрам, якія працуюць у дакументальным кіно і жадаюць здымаць фільмы высокага мастацкага ўзроўню, не хапае сацыяльнага заказу. На тэлебачанні аддаюць перавагу таму, што будзе прадавацца, карыстацца попытам у масавага гледача. Смелыя эксперыменты і творчыя пошукі часцяком даводзіцца пакідаць за кадрам або рэалізоўваць за свае грошы. Тым не менш я не лічу, што ў беларускім кіно крызіс. Гэта пацвярджаецца адным толькі поспехам на «Залатым Віцязі», дзе чатыры работы нашых майстроў былі ўдастоены ўзнагарод. Калі я прыязджаю ў іншую краіну, на чарговы міжнародны кінафорум, то заўсёды чую пра беларускае кіно толькі цёплыя водгукі.

**— Дзе сёння можна пазнаёміцца з лепшымі ўзорамі айчыннай дакументалістыкі?**

— Дакументальнае кіно, на жаль, маладаступнае для нашага гледача. Але сітуацыя палепшылася. Раней фільмы можна было ўбачыць толькі падчас кінафестываляў, цяпер яшчэ і па тэлебачанні — дзякуючы нядаўна створанаму каналу «Беларусь 3». Шкада, што ў краіне няма асобнага кінатэатра для дакументальных стужак. Гэтыя фільмы трэба глядзець на вялікім экране.

**— Марыце зняць ігравое кіно?**

— Вядома ж, прычым, я стварыў бы фільм пра сучаснасць. Мяне заўсёды здзіўляла, што практычна ніхто з нашых рэжысёраў не разумее: гледачам у першую чаргу патрэбныя фільмы не пра гісторыю, далёкае мінулае, а пра тое, што іх хвалюе сёння. Беларускі кінематограф абмінае драмы, якія адбываюцца ў кожнай сям'і, вострыя праблемы моладзі…

**— Вы ведзяце курс рэжысуры ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, рыхтуючы новую «армію» кінатворцаў. Якімі якасцямі павінен валодаць студэнт, каб стаць сапраўдным майстрам?**

— Заўсёды кажу маладым людзям, якія вучацца ў мяне, што рэжысёр абавязана быць энергічным і вельмі цікаўным. Толькі ў гэтым выпадку ў яго з'явіцца мноства тэм і магчымасцей, каб рэалізаваць свае творчыя амбіцыі. Ніводны фільм не атрымаецца без апантанага жадання кожнае імгненне спазнаваць свет. Мяне проста забівае, калі студэнт прыходзіць і скардзіцца, што не ведае, пра што здымаць чарговую работу для іспыту. Вось я, ужо стары чалавек, многае ведаю і прайшоў, але тым не менш мне ўсё цікава! Хаця, шчыра кажучы, калі трапляю ў акадэмію, сам вучуся ў сваіх студэнтаў, бо яны ўспрымаюць усё па-новаму, разбіраюцца ў тэхналогіях, якія для мяне з'яўляюцца загадкай. Я проста абавязаны ўвесь час удасканальваць свае веды, калі хачу і далей дамагацца поспехаў у прафесіі.

**— У такім шчыльным графіку ёсць месца для адпачынку?**

— У вольны час я люблю чытаць кнігі, у асноўным — жыцці святых. Дзіўлюся, чаму па гэтых творах не здымаюць кіно! У іх жа ёсць усё — моцныя асобы, трагедыі і азарэнні, духоўнасць і містыка, складаныя ўзаемаадносіны з грамадствам, але галоўнае — выхад, выратаванне, пра які мы ўсе марым. Чаму замест таго каб звярнуцца да ўнікальных праваслаўных крыніц, многія рэжысёры выдумляюць небыліцы?

**— Хто для вас найлепшы дарадца? Ці вы давяраеце толькі ўнутранаму голасу?**

— Заўсёды марыў знайсці настаўніка, чалавека, які стаў бы для мяне арыенцірам у жыцці, але так яго і не спаткаў, таму давяраю самому сабе. Душа мне ніколі не хлусіць, а сэрца заўсёды падказвае, правільна я раблю ці памыляюся. Зрэшты, так адбываецца з кожным чалавекам, таму што ў нас Богам закладзена пачуццё праўды і сумлення, якое перасцерагае ад неабдуманых учынкаў.

**— Выратаванне душы для вас галоўнае ў жыцці?**

— У Евангеллі сказана, што калі ўратуешся ты, вакол цябе выратуюцца тысячы. Таму, сапраўды, галоўнае для мяне — зрабіць усё, каб ачысціць сваю душу перад тым момантам, калі давядзецца трымаць адказ перад Богам. Мы расплачваемся не толькі за справы, якія пакідаем на зямлі, але і за думкі і пачуцці, якія нясём унутры. Будучы педагогам, я ведаю, што нельга вучыць іншых і самому не мяняцца да лепшага.

**— Якія творчыя праекты плануеце ажыццявіць?**

— Буду па-ранейшаму працаваць над фільмамі. Таксама вельмі хачу напісаць кнігу пра сваю сям'ю, куды ўвойдуць успаміны, дзённікі і лісты маіх сваякоў. Кніга, напэўна, будзе асабістай, для унукаў, а не для шырокай аўдыторыі. Тым не менш буду рады, калі іншыя чытачы знойдуць у ёй нешта блізкае і цікавае.

**Гутарыла Марыя ВОЙЦІК**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2300.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 01.07.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2738.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686